ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 24 (2374)

16 чэрвеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 100 рублёў.

## СВЕТЛЫ ШЛЯХ ЕЎФРАСІННІ





**5 чэрвеня ў Полацку адбылося вялікае свята — Дзень памяці Святой Еўфрасінні Полацкай. З гэтай нагоды -- гутарка "па гарачых слядах" са старшынёй Усебеларускага фонду Святой Еўфрасінні Полацкай Валянцінай КОЎТУН.**

**-- Спадарыня Валянціна, як паведамлялася ў прэсе, Усебеларускі жаночы фонд Еўфрасінні Полацкай выступіў ініцыятарам правядзення Агульнанароднага Дня святой Еўфрасінні Полацкай. З гэтай нагоды пытанне: што было ў аснове вашай ініцыятывы?**

-- Найперш -- угрунтаванне нацыянальнай традыцыі. Свята нацыянальнай культуры, духоўнасці, веры. Якраз такое свята можа стаць сілай, што закліча нас усіх да аб'яднання, перасякаючы нацыянальныя, рэлігійныя, палітычныя бар'еры.

**-- Што ж такое асабіста для вас святое імя Еўфрасінні Полацкай?**

-- Згадаем найперш, што Еўфрасіння Полацкая -- заступніца Беларусі, заступніца беларускага народа перад Богам. Вось ад гэтага і разгортваюцца думкі. Доўгія дзесяцігоддзі нашаму народу не хапала таго самага пачуцця "сям'і адзінай", без якога нацыю немагчыма ўявіць сярод іншых раўнамоцнай і вартай павагі. І вось гэтае пачуццё "сям'і адзінай" можа ўгрунтаваць у нашых сэрцах менавіта яна -- найпадобная Еўфрасіння Полацкая. Бо не можа быць адраджэння нацыянальнага без узвышэння і прасвятлення духоўнага. Імя Святой Еўфрасінні можа павесці наш народ да агульнай малітвы еднасці, злучнасці.

**НА ЗДЫМКАХ: хрэсны ход у Спаса-Еўфрасіннеўскай царкве ў Полацку; гучаць словы мітрапаліта Мінскага і Слуцкага ФІЛАРЭТА.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

КАЛІ МЫ БУДЗЕМ ЖЫЦЬ, ЯК ЕЎРАПЕЙЦЫ

## ПОСПЕХ ТРЭБА ПЛАНАВАЦЬ

**Старшыня Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь Уладзімір КАРАГІН інтэрв'ю дае, лічы, прафесійна: усё, пра што могуць запытацца журналісты, ведае наперад, ведае, і што ім адказваць (нават, калі нейкае пытанне і не зададуць). Сустракаецца з журналістамі ахвотна, гаворыць пераканаўча, часам даражыць, але на гадзіннік кожныя пяць хвілін выразныя позіркі не кідае. Аптыміст, што ў сённяшніх умовах насцярожвае і палохае. Астатняе -- у яго інтэрв'ю, якое ён даў карэспандэнту "Голасу Радзімы".**

*-- Уладзімір Мікалаевіч, што такое Саюз прадпрымальнікаў і для чаго ён створаны?*

-- Саюз прадпрымальнікаў -- гэта некамерцыйная грамадская арганізацыя прыватных прадпрымальнікаў Беларусі. Ствараўся ён для таго, каб даць магчымасць прадпрымальнікам удзельнічаць у самых розных як камерцыйных, так і дзяржаўных праграмах, а таксама для абароны іх інтарэсаў. Паколькі прыватны бізнес у нас развіваецца толькі трохі больш за тры гады, буйных капіталаў у Беларусі пакуль што няма, і ў саюз уваходзяць прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнесу. Дарэчы, да сябе ўсіх запар не прымаем, у саюз уваходзяць толькі каля 10 працэнтаў ад усіх беларускіх прадпрымальнікаў. Галоўныя крытэрыі -- сумленнасць, прыстойнасць, наяўнасць уласнай справы, жаданне развіваць вытворчую кааперацыю і эканоміку рэспублікі. Беларускі Саюз прадпрымальнікаў уваходзіць у сусветны Савет малога бізнесу, мы актыўна развіваем міжнародныя сувязі, прадстаўляем інтарэсы прадпрымальнікаў у органах улады, актыўна выкарыстоўваем магчымасці заканадаўчай ініцыятывы, праводзім міжнародныя камерцыйныя кірмашы, робім многае іншае...

*-- Хто такі беларускі прадпрымальнік? Які ён? Адкуль?*

-- Вельмі багатых у нас няма, бо, як я ўжо сказаў, існуем мы нядоўга і сыравіны, на якой робяцца самыя вялікія грошы ў Беларусі, не было. Сярод нашых прадпрымальнікаў шмат былых выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў і тэхнікумаў, настаўнікаў, інжынераў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ПРАЎДЗІВЫ І МУЖНЫ МАСТАК

*ДА 70-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Васіля БЫКАВА*

СЁННЯ нельга ўявіць сусветную літаратуру без мужнай, праўдзівай і таленавітай прозы Васіля Быкава -- народнага пісьменніка Беларусі, лаўрэата дзяржаўных і літаратурных прэмій, як нельга наогул уявіць жыццё беларусаў без Васіля Быкава.

Да яго выступленняў, роздуму, меркаванняў пра сучаснае становішча, пра падзеі недалёкай гісторыі былой савецкай дзяржавы і быцця чалавека ў ёй прыслухоўваюцца людзі, знаходзячы для сябе нейкія трывалыя арыенціры, маральную апору ў нашым незвычайна складаным, заблытаным часе.

Калі згадаць вехі жыццёвай біяграфіі Васіля Быкава, то, на першы погляд, яны быццам бы не знайшлі шырокага адлюстравання ў яго творчасці. Нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 года ў сялянскай сям'і Уладзіміра Фёдаравіча і Ганны Рыгораўны Быкавых у вёсцы Бычкі на Віцебшчыне. Пасля 8 класаў Кубліцкай сярэдняй школы паступіў на скульптурнае аддзяленне Віцебскага мастацкага вучылішча (з дзяцінства добра маляваў), якое не давялося скончыць з-за цяжкіх матэрыяльных умоў.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ГОНКІ*



**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь В. Кебіч наведаў Мінскі станкабудаўнічы завод імя Кірава. Тут ён сустрэўся з калектывам прадпрыемства і расказаў аб сваёй праграме напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, якія пройдуць 23-га чэрвеня. Дарэчы, Вячаслаў Францавіч шмат гадоў быў дырэктарам гэтага завода.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы В. Кебіча з калектывам прадпрыемства.**

*ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ПЕРСПЕКТЫВА*

### ЗА РОЎНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ

**Грамадскі камітэт "За роўныя магчымасці", які ўзначальвае Іван Чыгрынаў, выказаў сваю занепакоенасць фактамі адміністрацыйнага ціску на сродкі масавай інфармацыі і асобных журналістаў, што выступаюць з крытыкай урада і яго кіраўніка. Да такіх фактаў аднесена заява прэс-сакратара Старшыні Савета Міністраў У.Замяталіна ад 25 мая і рэарганізацыя "Беларускай маладзёжнай" і "Крыніцы". Негатыўна было ацэнена таксама засілле ў друку, на дзяржаўным радыё і тэлебачанні інфармацыі аб паездках і сустрэчах толькі аднаго кандыдата на пасаду прэзідэнта. Гэта не адпавядае прынцыпам плюралізму і роўных магчымасцей, заявіў камітэт.**

**Як адзначылі на брыфінгу члены камітэта, іх арганізацыя -- надпартыйная, яна не аддае перавагу якому-небудзь кандыдату, а дбае аб дэмакратычнай перспектыве для Беларусі.**

*ПАД АПЕКАЙ ДЗЯРЖАВЫ*

### ЦЭНТР НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР

**Так гістарычна склалася, што на тэрыторыі Беларусі здаўна жывуць прадстаўнікі многіх народаў -- больш за сто нацыянальнасцей. 3 чэрвеня ў Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё Цэнтра нацыянальных культур Беларусі. Ён размешчаны ў Доме ветэранаў, гаспадары якога згадзіліся пацясніцца.**

**Работа ў Цэнтры нацыянальных культур пачнецца не з нуля. У Беларусі ўжо зарэгістраваны і дзейнічаюць дзесяць рэспубліканскіх аб'яднанняў нацыянальных меншасцей, мноства гарадскіх, раённых і мясцовых. Створаны Цэнтр культур пры дапамозе ўрада. Міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч, які прысутнічаў на адкрыцці цэнтра, паабяцаў дапамагчы яго станаўленню кнігамі, фільмамі, перыядычнымі выданнямі. І сёе-тое ў гэтым плане ўжо зроблена. На цеснае ўзаемадзеянне з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей разлічвае і міністр адукацыі Беларусі Віктар Гайсёнак, які вобразна адзначыў, што хор гучыць прыгожа толькі тады, калі ў ім ёсць розналагоссе.**

**Павіншаваць з наваселлем гаспадароў новаспечанага цэнтра прыйшлі таксама прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч, яго намеснік Міхаіл Дзямчук, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі Уладзімір Ганчарык, старшыня мінскага гарвыканкома Аляксандр Герасіменка, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, дыпламатычнага корпуса, дзяржаўных і камерцыйных структур. І, як звычайна на наваселлях, у гэты дзень тут не абышлося без песень і танцаў.**

*"Мы прывыклі жыць у краіне "крывых люстэркаў". У канцы мінулага тыдня я быў у Маскве і ведаю, што і да сённяшняга дня Расія бярэ з нас мытныя падаткі і зборы. Ёсць дамоўленасць з Чарнамырдзіным, што з даты падпісання ён адменіць гэтыя зборы. Але ж дагавор не дзейнічае, калі ён будзе падпісаны -- на гэтым тыдні або пасля выбараў, -- я не ведаю. А пакуль жа дзейнічаюць і мытні, і зборы...*

*Сапраўдная дружба, я лічу, заключаецца і ў тым, каб умець весці сябе годна, падчас нават жорстка, абараняючы свае пазіцыі. Тады нас будуць паважаць, прымаць за сур'ёзных партнёраў. А да чаго прывяла наша лісліваць -- усе мы адчуваем на ўласнай скуры. З расіянамі заўсёды можна дамовіцца. З узаемнай выгадай. Жыць жа на падачках нельга: наш народ не горшы за іншых, але калі яго кіраўнікі лічаць інакш, то ім лепш вызваліць свае месца".*

*(З інтэрв'ю Старшыні Нацыянальнага банка Беларусі С. БАГДАНКЕВІЧА газеце "Звязда").*

*ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ*

### АД ЗАРПЛАТЫ ДА ЗАРПЛАТЫ

**Катастрафічны характар набыў спад дзелавой актыўнасці прадпрымальніцкіх структур у першай палове гэтага года. Да такога вываду прыйшлі ў Інстытуце эканомікі Акадэміі навук Беларусі.**

**Высокія тэмпы інфляцыі, нездавальняючы стан фінансава-крэдытнай сістэмы, парушэнне гаспадарчых сувязей на раней адзінай эканамічнай прасторы прывялі да затухання прадпрымальніцтва. Асабліва гэта тычыцца вытворчасці, у сферы якой сёння рэальна можа працаваць абмежаваная колькасць прадпрымальнікаў.**

**Рэзка знізілася пакупная здольнасць насельніцтва. Паводле даных статыстыкі, сёння больш за 80 працэнтаў жыхароў рэспублікі жывуць "ад зарплаты да зарплаты", а звыш 70 працэнтаў на працягу апошняга паўгода не набылі сабе нічога з прадметаў працяглага карыстання.**

*АФІЦЫЙНАЯ СУСТРЭЧА*



**У Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча спікера парламента Мечыслава Грыба з генеральным сакратаром нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе Вільгельмам Хойнкам.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.**

*НАТАТКІ З НАГОДЫ*

### ІМІТАЦЫЯ ЯК ЛАД ЖЫЦЦЯ

Адметная асаблівасць мінулага мая ў Мінску -- у цэнтры сталіцы, на самай цэнтральнай частцы самага цэнтральнага праспекта імя Скарыны, фарбуюцца і беляцца фасады дамоў. Увогуле справа патрэбная, нават неабходная: запушчанасць, недагледжанасць горада звычайна гаворыць пра такую ж запушчанасць і недагледжанасць жыцця яго жыхароў. Але зайдзіце ў двары і пад'езды "падноўленых" дамоў: усё валіцца, рушыцца, дворнікі і прыбіральшчыцы, на ўтрыманне якіх камунальная служба спраўна бяре з нас грошы, забыліся нават дарогу туды. Пад вокнамі дома, дзе я жыву, праходзіць добра вядомая многім мінчанам, калісьці мармуровая, зараз ужо больш бетонная лесвіца, якая спускаецца ад Дома афіцэраў да Цэнтральнага дзіцячага парку імя Горкага. Лесвіца падзелена газонам на дзве часткі: шырэйшую і вузейшую. Абапал -- старыя ліпы, з якіх за восень і зіму вецер нашкамутаў шмат лісця і сухіх галінак. Увесну прыступкі лесвіцы нарэшце пачысцілі, але толькі з аднаго боку. З другога -- увесь бруд так і застаўся гніць. Няйначай начальства жыллёва-камунальных служб палічыла занадта вялікай цяжкасцю чысціць усю лесвіцу: навошта, калі з аднаго боку прайсці можна...

Афарбоўка, пабелка дамоў на праспекце Скарыны, як я ўжо казала, -- з'ява ў цэлым станоўчая, але ў ёй, як у кроплі вады, адбіліся і многія недарэчнасці, недасканаласці нашага агульнага быцця. Сярод іх апошнім часам усё болей вылучаецца працэс, які можна назваць "імітацыя як лад жыцця". Імітуецца зараз шмат што, не толькі ўборка вуліц ці рамонт дамоў, імітуецца палітычная прынцыповасць, клопат аб дзецях і старых, эканамічныя рэформы, нават дзяржаўны суверэнітэт...

Вось на старонках газеты з'явілася паведамленне: прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч адмовіўся прыняць вядомага грамадскага дзеяча, кіраўніка дабрачыннага фонду пана Сораса. Чаму? А хто яго ведае. Але ёсць цьмяныя падазрэнні, што напярэдадні выбараў такім чынам імітавалася сацыяльна-класавая прынцыповасць: маўляў, нам "буржуяў" не трэба. Або яшчэ адна імітацыя, якая хутчэй нагадвае містыфікацыю, -- клопат пра народ. Абвешчана замарожванне кватрплаты, на акенцах чыгуначных кас вісяць абвесткі: цяпер пенсіянеры будуць бясплатна ездзіць на прыгарадных электрапаяздах... Разам з тым уціхую, без усялякіх "прэзентацый" традыцыйны і найгалоўнейшы прадукт харчавання ўжо некалькіх пакаленняў савецкіх людзей -- вараная каўбаса (яе яшчэ называюць "мокрая") значна падаражэла. Кілаграм гэтага "далікатэса" каштуе ўжо больш за 20 тысяч рублёў. Тая каўбаса, на якую вока глядзіць больш прыхільна, цягне на 60--90 тысяч "зайцаў". Што ж усё-такі адбываецца з беларускай эканомікай? Паслухаць прэм'ера, дык мы ўжо амаль выйшлі на светлы шлях, і каб не сысці з яго, прэзідэнтам трэба выбраць толькі цяперашняга важака -- В.Кебіча. Але заходзім у краму -- і чамусьці жаданне крочыць па таму выбранаму шляху адразу некуды знікае.

Наогул, калі казаць пра эканоміку, то тут ёсць сумненне: ці ведаюць нашы эканамічныя "кіроўцы" самі, чаго хочуць. Вось з'явілася паведамленне, што ўрадавыя эксперты абмяркоўваюць магчымасць фактычнага звароту да дзяржаўнага рэгулявання эканомікі, хопіць ужо гэтага рынку. Але яны ж і рвуцца пад апеку Расіі, дзе згортвання рынычных рэформ пакуль не прадбачыцца. Ці не адбываецца ў такім выпадку толькі імітацыя пошукаў выйсця з эканамічнага хаосу? Тое ж назіраецца і ў, здавалася б, уласнай знешняй палітыцы. Па нейкіх там тактычных або стратэгічных прычынах Масква раптам змяніла свае адносіны да натаўскага праекта "Партнёрства дзеля міру". І што? Беларусь таксама тут як тут: і мы гатовы да ўступлення, хаця яшчэ некалькі тыдняў таму поўнасцю адмаўлялі гэтае самае "партнёрства". Чаму зараз пазіцыя змянілася? Зразумела, самі надумаліся, без Масквы. Вось толькі хто ў гэта паверыць?

І, безумоўна, галоўная на сёння імітацыя -- імітацыя развіцця, імітацыя руху наперад пад назвай выбары першага беларускага прэзідэнта. Па-першае, апошнім часам мы так часта чуем ад уплывовых дзяржаўных асоб пра канфедэрацыю з Расіяй, што бярэ сумненне, ці патрэбен будзе той прэзідэнт Беларусі наогул? Па-другое, ва ўсіх сродках масавай інфармацыі толькі і чуеш: выбары, выбары, няма справы важнейшай. Але для каго? Для тых, хто зараз заваёўвае сабе ўладу ці цёплае крэсла пры ёй, -- так. А для ўсіх іншых, тых, хто не прэтэндуе на партфелі і кабінеты, -- што зменіцца, калі прэм'ер стане звацца прэзідэнтам ці спадар дырэктар саўгаса, накіраваўшыся шасцю вёскамі, стане кіраваць шасцю абласцямі?

Час ідзе няўмольна. І ён пераконвае: у адрозненне ад сталічнага праспекта, пачынаць чыстку нашых дзяржаўных Аўгіевых стайняў трэба не з фасада, а знутры. І пры тым ні на хвіліну не забывацца, што ў адрозненне ад усяго іншага жыццё кожнага чалавека паасобку і ўсёй Беларусі ўвогуле, якім бы яно ні было, -- не імітацыя, яно ідзе і, дарэчы, даволі хутка. Таму губляць час на ўсе гэтыя імітацыі-містыфікацыі для нас, простых людзей, не кандыдатаў і не дэпутатаў, занадта вялікая раскоша.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# СВЕТЛЫ ШЛЯХ ЕЎФРАСІННІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**-- Значыць, імя Святой Еўфрасінні якраз і стане вялікім нацыянальным магнітам!**

— Менавіта так! Якраз Святая Еўфрасіння нас аб'яднае, бо да яе цягнуцца высакароднымі думкамі не толькі праваслаўныя, але і каталікі, уніяты, якія годна шануюць вялікую патронку Беларусі.

**-- Скажыце, вы ўвогуле задаволены тым, як праводзілася свята!**

-- Я задаволена найперш тым, што яно ўсё ж ускалыхнула грамадскасць. Мне было даслана мноства лістоў з расказамі пра тое, як і дзе праводзіцца падрыхтоўка да свята. Было шмат тэлефонных званкоў і паведамленняў пра хрэсныя ходы, будаўніцтва храмаў імя Святой Еўфрасінні Полацкай, асвячэнне капліц, крыжаў, крыніц.

**-- Тэлебачанне дало магчымасць нам усім назіраць за тым, што адбывалася ў гэты дзень у Полацку. Маецца на ўвазе трансляцыя малебна і хрэснага ходу на чале з Экзархам Усяе Беларусі Філарэтам.**

-- Мяркую, што тэлебачанне памылілася, не паказаўшы Беларусі святочны канцэрт, які адбыўся ў той жа дзень у Сафійскім саборы. Канцэрт наладзіў менавіта наш фонд і, мяркуючы па рэакцыі прысутных гледачоў -- а сабор быў цалкам запоўнены, — праграма канцэрта адпавядала высокаму духоўнаму напаўненню святочнага дня. Галоўным спонсарам канцэрта з'яўляецца фонд "Сорас — Беларусь". Да палачан прыехалі знакамітыя Акадэмічны хор Ігара Мацюхова, інструментальная група "Харошак" з "Полацкім сшыткам", хор горада-пабраціма Полацка Фрыдрыхсхафена з Германіі. Упэўнена, што святочны канцэрт у Сафійскім саборы даволі гарманічна, на самай высокай духоўнай ноце завяршыў Агульнанародны дзень Святой Еўфрасінні Полацкай.

**-- Хто з гасцей прысутнічаў у зале, ці былі пісьменнікі, прадстаўнікі іншых грамадскіх арганізацый!**

-- Калі коратка, то мы вельмі рады, што па нашым запрашэнні ў святе прынялі ўдзел госці з Украіны, Расіі, Польшчы, Літвы. Для нас свята пачалося яшчэ 4 чэрвеня, калі ў Полацкім дзяржаўным універсітэце была праведзена прэс-канферэнцыя з удзелам такіх актывістаў фонду, як скульптар Святлана Гарбунова, мастачка Нэлі Шчасная, выкладчыца ВНУ Ала Кавун, пісьменніца Людміла Хейдарава. Да гаворкі падключыліся таксама народны пісьменнік Беларусі Іван Чыгрынаў, вядомыя пісьменнікі, галоўныя рэдактары часопісаў "Полымя" і "Нёман" Сяргей Законнікаў, Анатоль Кудравец, а таксама госця з Англіі Вера Рыч, намеснік старшыні Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Анатоль Сабалеўскі, прадстаўніцы Беларускай лігі жанчын, журналісты з газет і замежнага радыё, святары.

Усе яны прысутнічалі і на канцэрце ў Сафійскім саборы. Далучыліся, вядома, і самі палачане. Мне прыемна было бачыць сярод гасцей міністра культуры і друку Анатоля Бутэвіча, пісьменнікаў Вольгу Іпатаву і Уладзіміра Арлова. Не менш радасна было чуць палкія словы ўладыкі Філарэта, звернутыя да фонду пасля ўручэння яму юбілейнага медаля Святой Еўфрасінні Полацкай. Не выпадкова ўладыка пацалаваў медаль, які сапраўды вельмі нагадвае абраз. Аўтарка медаля — вядомы скульптар, адна з заснавальніц фонду Святлана Гарбунова.

**-- Добра, што вы разварушылі грамадства, падаравалі нам сапраўды вельмі годную ідэю, якой так нестава беларускаму грамадству.**

-- Вядома, самае важнае -- каб ідэя Агульнанароднага дня Святой Еўфрасінні Полацкай сапраўды стала патрэбнай народу і дзейснай. Каб яна запрацавала. Аднак трывожуся тым, што наша ініцыятыва, думка пра тое, што свята павінна ўрэшце перарасці ў нацыянальную традыцыю, стане матэрыялам у палітыканскіх дзеях, ператворыцца ў адміністрацыйную паказуху. А гэта можа разбурыць самую годную ідэю. На падобнае мы ўжо ўсе добра нагледзеліся ў свой час.

**-- Як вы бачыце працяг пачатага!**

-- Магу падзяліцца толькі запаветнай мрояй. Гэта мроя пра "пеўчае Поле" святой Еўфрасінні Полацкай. Каб зямля Полацкая змагла сустрэць гасцей не толькі з родных беларускіх гарадоў і мястэчкаў, але таксама годных гасцей —прадстаўнікоў беларускага замежжа. Магчыма, гэта справа зацікавіць "Бацькаўшчыну", і наступны Агульнанародны дзень Святой Еўфрасінні Полацкай мы будзем праводзіць разам.

**-- Справа годная, але і няпростая. А што можна чакаць у бліжэйшы час, што ў планах фонду!**

— Каб падтрымаць правядзенне Агульнанароднага дня Святой Еўфрасінні Полацкай, падтрымаць саму ідэю стварэння нацыянальнай традыцыі, на пазачарговай канферэнцыі Усебеларускага жаночага фонду Еўфрасінні Полацкай прынята рашэнне ўтварыць Міжнародную прэмію Святой Еўфрасінні Полацкай, якой будуць узнагароджвацца як асобныя дзеячы, так і грамадскія арганізацыі за асабліва значныя поспехі ў галіне развіцця культуры, навукі, духоўнай асветы, грамадскай дзейнасці, асабліва звязаныя з духоўным адраджэннем беларускага народа. Увогуле, лічу, што Агульнанародны дзень Святой Еўфрасінні Полацкай можа набыць статус міжнароднага свята. Да гэтага будзем імкнуцца, гэтаму будзем аддаваць свае сілы, свой талент, свой час.

**Вяла гутарку**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**





**НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё прэс-канферэнцыі, прысвечанай дню памяці Святой Еўфрасінні; святочны канцэрт у Сафійскім саборы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ПОСПЕХ ТРЭБА ПЛАНАВАЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Узровень інтэлігентнасці? Сярэдні. Сярод прадпрымальнікаў, як і паўсюль, сустракаюцца розныя людзі. Ёсць вельмі яркія і цікавыя асобы, ёсць і "набліжаныя" да ўрада нечыя дзеці і сваякі, якія зрабілі свае капіталы на вывазе сыравіны, калі гэта забаранялася іншым, бо мелі ліцэнзіі на такія аперацыі, ці на продажы гарэлкі з рэзервовых фондаў урада. Але ж большасць -- сур'ёзныя прадпрымальнікі, якія імкнуцца развіваць вытворчасць. Калі сёння нашаму брату даць дзвесце тысяч долараў, праз год ён гарантавана будзе мець ужо дзвесце пяцьдзесят тысяч. Я ведаю сотні такіх людзей, ім не хапае толькі партнёраў і стартавага капіталу. А ёсць у іх выдатныя ідэі, тэхналагічныя рашэнні, шмат пакуль што нерэалізаваных ноў-хаў, якім няма аналагаў у свеце.

*-- Вы адначасова ўзначальваеце Саюз прадпрымальнікаў і Таварыства спажыўцоў Рэспублікі Беларусь. Шчыра кажучы, гэтыя дзве пасады выглядаюць, як несумяшчальныя...*

-- Так, я адзін з ініцыятараў стварэння Таварыства спажыўцоў. Дзяржава ў нашай краіне заўсёды была манапалістам, а калі няма з чаго выбіраць -- бярэш, што даюць. Гэта было вельмі зручна для дзяржавы, і яна не пакідала чалавеку права выбару, якое азначае канец яе ўлады і, дарэчы, не толькі ў эканоміцы. Дзяржава і зараз вельмі неахвотна здае свае пазіцыі, але з'яўленне новых вытворцаў -- гэта рэальнасць, з якою ўжо нельга не лічыцца. Нам жа сёння нявыгадна мець беднага спажыўца, які атрымлівае ўсяго 9 долараў у месяц (гэта сярэдняя месячная заработная плата), бо ён не зможа набыць нашы тавары, наведаць нашы магазіны, паехаць адпачыць па пуцёўках турыстычных агенцтваў, якія арганізоўваюцца зараз. Так што на самай справе інтарэсы вытворцаў і спажыўцоў непарыўна звязаны, як былі звязаны і гэтыя пасады. "Былі", таму што я дабіўся свайго: зараз у Беларусі прыняты закон аб абароне правоў спажыўца ў Рэспубліцы Беларусь, пасля чаго я пакінуў гэтую пасаду.

*-- Мне даводзілася пераконвацца, што нашы дэпутаты не заўсёды дакладна ўяўляюць сабе, як жыве іх народ. Ці бачыце вы з вышыні сваёй пасады, як жывуць тыя, каго прынята называць "простыя людзі"?*

-- Так, я добра ўяўляю, як яны жывуць. Да мяне прыходзяць людзі са сваімі праблемамі, як да дэпутата, даводзіцца вельмі многа ездзіць па рэспубліцы -- толькі ў гэтым годзе я пабываў у пяцідзесяці чатырох гарадах і населеных пунктах Беларусі. І паўсюль я сустракаюся не толькі з прадпрымальнікамі -- рабочымі, служачымі... Так што пачуццё рэальнасці я пакуль не згубіў.

*- І як вы ацэньваеце іх жыццё, становішча, у якім яны апынуліся?*

-- Як вельмі цяжкае, як штучна створаную сітуацыю. Людзі не заслугоўваюць такога нізкага ўзроўню жыцця. Мы маглі б змяніць гэта на працягу года-паўтара.

*-- Тады што вам перашкаджае?*

-- Адсутнасць палітычнай волі, а таксама мэтанакіраванасці і сабранасці вакол галоўных пытанняў. Чаму мы сёння вядзём самастойную лінію ў палітыцы, вызначаем сваіх кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Беларусі? Чаму імкнёмся актыўна працаваць у парламенце і дабівацца, каб у будучыні прэзідэнтам рэспублікі быў прадпрымальнік? Ды таму, што калі рэспубліка хоча зарабляць і добра жыць, яна павінна мець прадпрымальніцкае мысленне. У нас жа яно пакуль што ўтрыманскае. Рэспубліцы патрэбны добры бізнес-план, такі ж, які распрацоўвае, а потым выконвае кожнае прадпрыемства ці фірма. Мы распрацавалі і падрыхтавалі такі бізнес-план для Беларусі, больш таго, мы гатовы яго рэалізаваць. Дайце нам такую магчымасць, і мы зможам змяніць гэтае цяжкае становішча.

*-- Бізнес і палітыка -- тэма ўвогуле адвечная. Як складаюцца гэтыя адносіны зараз у вас?*

-- Эканоміка заўсёды павінна ісці наперадзе палітыкі, яна павінна дыктаваць, што і як рабіць, якія прымаць рашэнні, куды і каго прызначаць. А ў нас сёння ўсё вызначае палітычная кан'юнктура, і эканоміка з'яўляецца ахвярай непрадбачлівай палітыкі. Што тычыцца канкрэтнай нашай дзейнасці ў гэтым напрамку, то мы ўваходзім у дзесяткі розных змешаных камісій, у разнастайныя пагадненні, гандлёва-эканамічныя саветы. Гэта сур'ёзная, напружаная і вельмі нервовая праца, таму што і ўрад, і прадпрымальнікі не заўсёды разумеюць: нельга кожны дзень бразгаць дзвярыма, а трэба руплліва з дня на дзень працаваць. Сёння трэба сядзець тут, на сесіі, нават у калідор не выходзіць! А між тым, сарака дэпутатаў-прадпрымальнікаў зараз тут няма, яны робяць бізнес у той час, калі ў гарсавеце прымаюцца рашэнні, з якімі яны потым не згодзяцца і супраць якіх будуць змагацца.

*-- Набліжаюцца выбары прэзідэнта Беларусі. Каго вам хацелася б бачыць на гэтай пасадзе?*

-- Нам хацелася б бачыць маладога, энергічнага кампетэнтнага чалавека. Шкада, што гэта не атрымліваецца...

*-- Але ж вы таксама выстаўлялі сваю кандыдатуру на гэтую пасаду...*

— ... І выйшаў на шостае месца па Мінску і сёмае па Беларусі.

*-- Тады чаму вы спыніліся?*

— Па-першае, таму, што нам яшчэ не хапае вопыту, а па-другое, гэта была праверка нашых структур. Мы адмовіліся ад блока з палітычнымі партыямі, ад дапамогі прэсы -- я наўмысна не выступаў у газетах, хаця меў такую магчымасць. Мы высвятлялі, чаго мы вартыя і на што здольныя. У працоўным горадзе Жлобіне я апынуўся на першым месцы сярод усіх кандыдатаў, мяне падтрымалі ў Старых Дарогах і многіх іншых месцах. Зараз я ведаю, што ўвосень, калі адбудуцца парламенцкія выбары, у 48 акругах Саюз прадпрымальнікаў зможа вылучыць сваіх кандыдатаў у Вярхоўны Савет рэспублікі. Мы зможам сфарміраваць моцную эканамічную фракцыю ў будучым парламенце.

*-- Як адчуваюць сябе зараз на Беларусі замежныя інвестары?*

-- Замежным партнёрам зараз вельмі выгадна працаваць на Беларусі. Пра нас пакуль мала ведаюць на Захадзе, а між тым, тут замежныя інвестыцыі абаронены лепш, чым нашы ўласныя грошы, таксама іх прыбытак на тры гады вызвалены ад падаткаў. Заходнія прадпрымальнікі, якія працавалі ў сябе дома хаця б на сярэднім узроўні, робяць тут вялікія грошы ўжо зараз. У свой час людзі баяліся ехаць у Амерыку, туды адправіліся самыя смелыя і рашучыя. Напэўна, Захад жыве сыта і спакойна, людзі не хочуць рызыкаваць. Але мы намнога зніжаем ступень рызыкі для іх. Саюз прадпрымальнікаў можа дапамагчы знайсці надзейных партнёраў. У нас ёсць камп'ютэрны банк даных аб пяцістах тысячах партнёраў па СНД. Я магу расказаць, дзе вырабляюць кансервы, дзе -- паперу. Той, хто звярнуўся, -- выйграў, хто не -- шукаў удачы сам метадам спроб і памылак. Дарэчы, я мог бы расказаць пра многія памылкі замежных прадпрымальнікаў і даказаць, што яны -- ад нежадання працаваць цывілізавана, так, як прынята на Захадзе. Чамусьці ў нас яны самі парушаюць ў іх жа прынятыя правілы...

*-- Ці не стаіць за жаданнем супрацоўнічаць з замежнымі партнёрамі наша адвечнае спадзяванне на дапамогу Захаду?*

-- Мы не чакаем, што нехта прыйдзе і падорыць нам грошы. Так, мы чакаем партнёраў з грашамі, але мы не просім падарункаў, мы прапануем сумесную дзейнасць, якая будзе выгаднай для двух бакоў. Да таго ж, Беларусь -- добрая стартавая пляцоўка для выхаду на велізарны рынак СНД... Каб прыцягнуць замежных партнёраў, трэба зрабіць так, каб супрацоўнічаць з намі ім было выгадна. А зацікавіць іх можа прыбытак, стабільнасць і надзейнасць. Мы прапаноўваем гэта.

*-- Вы -- першы аптыміст, якога мне давялося бачыць за апошні час.*

-- Я аптыміст, але не рамантычны аптыміст, я добра ведаю, што такое рынак і што такое бізнес. Але я лічу, што філасофія бізнесу ўвогуле павінна быць глыбока аптымістычнай. У любой краіны павінна быць свая нацыянальная ідэя. Нацыянальнай ідэяй дзеля Беларусі павінна стаць утварэнне высокага дабрабыту народа. Але гэтую ідэю мала абвясціць, трэба, каб людзі бачылі мэту і ведалі, як яе дасягнуць. Мы верым у будучыню Беларусі, верым, што праз дзесяць год грамадзяне рэспублікі будуць атрымліваць столькі ж, колькі жыхары еўрапейскіх краін. У нас ёсць для гэтага ўсё: адукаваныя людзі, выдатнае геаграфічнае становішча. Мы знаходзімся ў цэнтры Еўропы, дык чаму мы павінны пакутаваць, калі ўсе навокал квітнеюць? Эканоміка нечым нагадвае спорт, і той, хто не паставіць перад сабою высокай мэты, ніколі не зможа дасягнуць высокіх вынікаў. Поспех трэба планаваць, толькі тады ён прыйдзе. Абавязкова, паступова і заканамерна. Абавязкова прыйдзе.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## НАТАТКА ПЕРАД ПАДЗЕЯЙ

# НАВАГРАДЦЫ, ЗБІРАЙЦЕСЯ!

Ідэя Згуртавання навааградцаў свету дзеля адраджэння роднага краю ўпершыню была прылюдна выказана мною на прэзентацыі ў Наваградку кнігі земляка Міколы Нікалаева (жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу) "Палата рукапісная". Прысутныя горача падтрымалі ідэю яднання, утварылася ініцыятыўная група, якая на сваім пасяджэнні ў якасці сустаршыняў Аргкамітэта па скліканню ўстаноўчага сходу прапанавала дырэктара Наваградскага краязнаўчага музея Тамару Вяршыцкую і аўтара гэтых радкоў. Было вырашана звяртацца ў розныя месцы, дзе жывуць землякі, арганізоўваць суполкі і весці канкрэтную працу. Першымі здолелі арганізавацца тыя, хто жыве ў Мінску. Адбылося неўзабаве і сумеснае з прадстаўнікамі Наваградка пасяджэнне мінскага зямляцтва наваградцаў, было прынята рашэнне распрацоўваць праграмныя дакументы. Усё, здавалася, павінна было ісці належным чынам. Ды неўзабаве адчулася супрацьдзеянне, як ні дзіўна, з боку кіраўніцтва арганізацыі, па ідэі якраз і зацікаўленай у такіх ініцыятывах знізу. Між тым знайшліся добраахвотнікі-пасланцы, якія паехалі ў Наваградак і напусцілі, як кажуць у нас, на людзей тумановў, пасля чаго была пастаўлена пад сумненне ідэя згуртавання, правамернасць яго стварэння менавіта цяпер. Ну а калі?.. І трэба сказаць, што менская суполка ў гэтым пытанні праявіла цвёрдасць і прынцыповасць. Менавіта тут былі распрацаваны, абмеркаваны і разасланы па Беларусі і замежжы, дзе кампактна жывуць землякі, статут і заклік "Гэй, наваградцы!". Адтуль пачалі прыходзіць усхваляваныя весткі аб падтрымцы ідэі згуртавання. Дзеля нагляднасці прывяду пару выказванняў з лістоў.

"Дарагі Яўген Рыгоравіч! -- пісаў вядомы нам Барыс Кіт. -- Атрымаў Ваш ліст ад 01.04.1994 толькі сёньня і адразу Вам адпісваю. Вельмі захоплены Вашай дзейнасьцю для заснаваньня "Згуртаваньня Наваградцаў сьвету". Сапраўды, яшчэ адно Вашае гістарычнае асягненьне, якое шмат зробіць для адраджэньня нашай Бацькаўшчыны. Я гатоў Вас падтрымаць ува ўсім..."

"Агульна да Вашай ідэі, -- піша Язэп Сажыч, -- адношуся вельмі прыхільна і згодзен, каб залажыць Згуртаваньне наваградцаў, хоць меў раней крыху іншае ўяўленьне аб мэтах такой арганізацыі. Галоўны яе сэнс бачу дзеля "адраджэньня гэтага гістарычнага старажытнага краю". Уважаю першачарговым стварэньне вялікага Музэя, куды б варта перанесьці ўсе зьвязаныя з Наваградчынай забыткі зь Вільні (якая, лічу, страчаная для нас), а таксама пабудаваньне Унівэрсытэту, бо ж наш прыгожы "град" сапраўды надаецца на унівэрсітэцкі горад. А гэтага можна дабіцца, маючы ініцыятыўную арганізацыю, якая зможа сабраць свае сродкі і дамагацца дзяржаўных субсідыяў на гэтую мэту. Дык плёну Вам, шаноўныя завадатары і арганізатары!"

А вось адзін з галасоў ад самой Наваградчыны, ад жанчыны з вёскі Купіск Надзеі Раманчук:

"Глыбокапаважаны спадар Яўген Лецка!

Прачытала ў штотыднёвіку "Голас Радзімы", якую выпісваю 5 гадоў запар, аб маючым адбыцца сходзе наваградцаў і была вельмі ўзрушана і зацікавілася такой важнай ідэяй. Ухваляю Вашу задуму.

Каму, як не нам, жыхарам Наваградчыны -- калыскі пісьменства, кнігадрукавання, навукі, асветы, краю славутых людзей, патрэбна згуртаванне і адраджэнне былой славы?!

Зычу Вам вялікіх поспехаў у Вашай высакароднай справе Адраджэння!"

У атрыманых лістах шмат канкрэтных, вельмі слушных прапаноў, цікавых разважанняў. Выключэнне зраблю яшчэ толькі для Міхася Раецкага, бо ён якраз неадназначна ўспрыняў ідэю і патрэбы стварэння нашага згуртавання ў кантэксце сённяшняй агульнабеларускай сітуацыі, палітыкі ўрада, скіраванай, як лічыць наш зямляк з Аўстраліі, не на абарону нацыянальных прыярытэтаў, эканамічнай і палітычнай незалежнасці Беларусі, а на падпарадкаванне інтарэсам суседніх дзяржаў. "Бачу гэта, -- сцвярджае ён, -- і ў мяне зусім няма жадання, каб зарганізаваць ЗНС. На маю думку, яно можа стаць такім жа бяздзейным, як і ЗБС "Бацькаўшчына" стала апошнім часам, ці ў мінулым быў Камітэт сувязяў з суайчыннікамі за мяжой (маецца на ўвазе таварыства "Радзіма". -- **Я.Л.**). На добры лад, калі Вам на сэрцы ляжыць справа Беларусі, дык мусіце як мага хутчэй і без аглядкі праводзіць усведамляючую нацыянальную працу! Пакуль яшчэ існуе ў Беларусі палітычная адліга!"

Наконт важнасці "нацыянальна-ўсведамляючай" працы цалкам пагаджаюся, у гэтым якраз і бачыцца адна з асноўных мэтаў нашага згуртавання: трэба як мага паўней і шырэй данесці да жыхароў Наваградчыны веды па гісторыі, культуры, рэлігіі, бо нас на працягу стагоддзяў і дзесяцігоддзяў духоўна абкрадвалі, рабілі знарок невідушчымі. І хіба можна змірыцца, калі многія нашы землякі проста не ведаюць, што за дзяржаву ўяўляла сабой Вялікае Княства Літоўскае і якую ролю ў ёй адыграў наш старажытны Новагарадак. А хіба не дзіўна ўспрымаць, што дасюль многія жыхары Наваградчыны не разумеюць, што католікамі могуць быць і самыя сапраўдныя, самыя шчырыя беларусы, а не толькі палякі...

Ці здолее ЗНС па-належнаму заявіць пра сябе і здзейсніць заяўленыя мэты і задачы -- пакажа час.

Будзем спадзявацца, што ўстаноўчы сход ЗНС абярэ годнае кіраўніцтва, якое здолее арганізаваць і першы з'езд наваградцаў свету, і павесці рэальную працу па адраджэнню роднага краю. У гэта вераць і тыя, хто жыве на Наваградчыне, і хто яе пакінуў, але сэрцам і розумам назаўжды застаўся з ёю з'ядналым. Толькі разам, адною сям'ёю землякоў-пабрацімаў здолеем мы асягнуць рэальныя вынікі. Можна парадавацца, што дасягнута згода паміж грамадскай ініцыятывай і афіцыйнымі ўладамі, у выніку чаго, як і належыць, устаноўчы сход будзе праходзіць на любай усім нам Наваградчыне.

Але, кажучы пра згоду, нельга забывацца, што яна дасягаецца толькі на прынцыповай аснове, гарантам чаго можа быць цвёрдая і незалежная лінія грамадскай арганізацыі, яе непадлегласць кан'юнктурным зменам ва ўладных структурах, бо трэба памятаць, што ўлады прыходзяць і адыходзяць, а Беларусь і Наваградчына, як яе неад'емная частка, застаюцца навечна...

Наперадзе вялікая праца, якая запатрабуе ад нас шмат сіл і энергіі, нязломнасці і прадбачлівасці, нават самаахвярнасці . Працу гэтую мяркуецца весці пераважна па трох накірунках: культурна-асветным, гаспадарча-камерцыйным і экалагічным у адпаведна арганізаваных камісіях, куды ўвойдуць спецыялісты ў канкрэтных галінах дзейнасці.

Гэтае маё ўступнае слова да матэрыялаў устаноўчага сходу прашу ўважаць за чыста асабістае. Складзеныя ж мною статут і заклік "Гэй, наваградцы!" прайшлі зацікаўленую грамадскую апрабацыю, заўвагі супольнікаў былі з удзячнасцю ўлічаны пры падрыхтоўцы дакументаў да друку. Таксама, як і маімі калегамі, сябрамі мінскай суполкі -- Аляксеем Рагулем, Зміцерам Сапліцам, Паўлам Вадап'янавым, аўтарам адпаведных раздзелаў накірункаў дзейнасці ЗНС.

Праекты дакументаў, ясная рэч, будуць абмеркаваны і прыняты, а мо і адхілены, заменены на новыя на ўстаноўчым сходзе і разасланы паўсюль, дзе жывуць выхадцы з Наваградчыны. Іх думкі, як і перад гэтым, будуць улічвацца пры падрыхтоўцы першага з'езда наваградцаў свету, які, мяркую, варта правесці летам наступнага, 1995 года.

Бог нам у помач!

Жыве Беларусь!

**Яўген ЛЕЦКА.**

* * *

Устаноўчы сход Згуртавання наваградцаў свету адбудзецца 18--19 чэрвеня на Наваградчыне. Першы дзень (пачатак у 11.00) будзе праходзіць у зале раённага Дома культуры і мець праблемна-арганізацыйны накірунак. Назаўтра ўдзельнікі сходу пазнаёмяцца з помнікамі дойлідства, археалогіі, культуры Наваградчыны і завершаць працу сяброўскай вячэрай у адным з маляўнічых куткоў на ўлонні прыроды.

Запрашаем вас паўдзельнічаць у працы ўстаноўчага сходу ЗНС у якасці дэлегата ці госця.

Тэлефоны для даведак:

**Наваградак:**

**Тамара Вяршыцкая -- 2-14-70 (сл.), 3-09-20 (х).**

**Мінск:**

**Разалія Александровіч -- 62-24-85 (х).**

**Яўген Лецка -- 37-08-51 (сл.), 37-05-44 (х).**

## ДА 50-годдзя ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ



**Мікалая Лебедзева ў Гомелі ведаюць многія. Доўгія гады дырэктарстваваў ён у сярэдняй школе N 44, выхаваў многія сотні вучняў, атрымаў званне заслужанага настаўніка. "Ад званка да званка" прайшоў ён дарогамі Вялікай Айчыннай, ваяваў не толькі на тэрыторыі былога Саюза, але і за яго межамі, стаў поўным кавалерам ордэна Славы.**

**Напярэдадні 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў Мікалай Апанасавіч адзначыў свой юбілей: споўнілася яму 70 гадоў. У сувязі з гэтым ён атрымаў віншавальную тэлеграму са словамі падзякі ад Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь за шматгадовую працу. Нягледзячы на свае 70, ЛЕБЕДЗЕЎ поўны аптымізму і сіл, да сённяшняга дня разам з членамі клуба "Шукальнік" СШ N 44 (на здымку) вядзе вялікую работу ў музеі баявой і працоўнай славы школы.**

## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ВЫРАШЫЎ ПРАБЛЕМУ ЗНІКАЮЧАЙ ВАДЫ

Людзі прывыклі думаць, што Моцарты, Дзікенсы, Эдзісоны ды Аляксандры Македонскія -- гэта нейкія асаблівыя, амаль недаступныя волаты, што яны носяць на сабе нейкую боскую пячаць і жывуць нейкім асаблівым жыццём, адарваным ад дробных зямных справаў. Калі ж мы бачым зусім простых людзей, хоць гэта геніі, то з цяжкасцю да гэтага прывыкаем. Адсюль і прыказка: "Не будзеш прарокам у сваёй зямлі".

І сапраўды дзіўна: Барыс Кіт, Мікалай Аляшкевіч і нямала іншых даўно-даўно прызнаны за мяжой выдатнымі (нават вялікімі) людзьмі. А вось наш урад і парламент ніяк не хочуць (не могуць?) гэтага зразумець і належна трактаваць сваіх выдатных суайчыннікаў.

Мікалай Аляшкевіч на рэдкасць сціплы і ўважлівы чалавек. Ніколі і нідзе ён сябе не рэкламуе і не павышае. Аднак ён з'яўляецца бясспрэчна выключна здольным інжынерам, з вялікай эрудыцыяй у галіне водных канструкцыяў і воднай гаспадаркі. Гэта ён даказаў вырашэннем вельмі складаных тэхнічных праблемаў у Польшчы, Канадзе, Афрыцы (Сенегал), многіх замежных краінах. Дабіўся ён гэтага амаль саматугам, у выніку тытанічнай працы і нязломнай волі. Вось які быў яго жыццёвы шлях.

Нарадзіўся Мікалай яшчэ перад заканчэннем першай сусветнай вайны ў невялічкай, але вельмі старой вёсачцы Катлова, недалёка Валеўкі Наваградскага павета. На катлоўскім узгорку раскапаны магілы, у якіх знойдзены чарапы і косці, але ніводнага абломка дрэва: хавалі без труны. На магільніку не было ніводнага крыжа.

Хлопец рос у шматдзетнай сялянскай сям'і. Ледзь падросшы, пасвіў каровы і авечкі, памагаў у розных гаспадарскіх работах. Паспрабаваў і холаду, і голаду. Дзяцінства прыпала на ваенныя і паваенныя гады, калі не было ні роднай школы, ні нармальнай навукі. Побач з вёскай пачыналіся лясы, часта вылі ваўкі, падыходзячы пад самыя вуглы. А дзяды і прадзеды яшчэ спатыкалі ў лясах мядзведзяў. У рэчцы Нёўдзе вяліся бабры.

Да 1926 года быў млын і побач -- двор, уласнікам якога тады быў Гудовіч. За вёскаю ў лесе стаяла смалярня, якая ў пачатку дваццатых гадоў згарэла.

Калі закончылася вайна і прыйшлося ісці ў школу, узнікла сапраўдная бяда: дзеці не маглі зразумець, што хоча ад іх настаўніца. Яна гаварыла да іх на нейкай дзіўнай (польскай) мове і мала разумела нашу гутарку. Палякі ўсюды паадчынялі толькі польскія школы. Мінула нямала часу, пакуль вучні пачалі разумець, чаго ад іх патрабуе "навучыцелька". Пісаць і рашаць задачкі вучыліся на грыфельных дошчачках. Добра было на іх пісаць. Калі штосьці дрэнна атрымаецца, то, папляваўшы, сатрэш анучкаю альбо рукавом ды зноў і зноў пішаш. Пісалі грыфелем -- каменнай палачкай. У завеі і вялікія маразы сядзелі дома.

Больш свядомыя бацькі сваіх дзяцей самі вучылі пісаць па-беларуску ці па-руску: не было беларускіх кніжак. Зрэшты, у тыя часы, хоць хто і скончыў школу, на адпаведную працу ўладкавацца не мог: беларусаў нікуды не прымалі. Прыходзілася трымацца гаспадаркі альбо шукаць нейкіх пабочных заработкаў: пры будове дарог альбо на сезонных работах у Латвіі і г.д.

Надышоў 1939, а за ім і 1940 год. Энергічнаму дзецюку пашанцавала ўладкавацца ў Наваградскі хлебакамбінат. Жадаючы здабываць навуку, хлапец пайшоў у вячэрнюю сярэднюю школу. Савецкія ўлады дазволілі навучаць на беларускай і расейскай мове. Аднак закончыць гэтай школы не ўдалося. Пачалася вайна.

Мікалай у гэтым часе ўжо быў жанаты з дзяўчынай з усходняй Беларусі. Рашылі пераехаць услед за адступаючай арміяй на Магілёўшчыну. Уладкаваліся ў калгасе над рэчкай Бярэзінай. Сялянскі сын, Аляшкевіч, як кажуць, на ўласнай скуры адчуў "шчаслівае" калгаснае жыццё. Доўга не вытрымаў і вярнуўся на бацькаўшчыну ў Катлова. Ужо ўся Беларусь была занята немцамі.

Акрамя нямецкіх фіскальных і карных органаў, тут удзень любіла наведвацца паліцыя, а ўночы савецкія дэсантнікі і мясцовыя партызаны. Усе забіралі скаціну, сала, вопратку -- грабілі бесперапынна. Прыйшлося перабірацца ў горад. Уладкаваўся пры дапамозе знаёмых на чыгунку ў Баранавічах, дзе працаваў да канца вайны.

Гэтая праца, аднак, не давала перспектывы на будучыню. Акрамя таго, пасляваенныя савецкія ўлады прадаўжалі даваенны курс. Каб чаго-небудзь дабіцца, трэба было прабівацца ў камуністычную партыю. Ніхто не мог быць дырэктарам, кіраўніком, афіцэрам, вучоным, будучы беспартыйным. Значыць, трэба было фальшывіць душою. А гэта не ўкладалася ў простую, шчырую і сумленную натуру Аляшкевіча. Не забываймася, што гэта быў адораны вялікімі здольнасцямі і працавітасцю малады чалавек.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

49

**ПРАМЯНІСТЫЯ.** Праз нейкі час па ініцыятыве Тамаша Зана, Адама Міцкевіча, Яна Чачота ўтвараецца "Таварыства прамяністых", ад слова "прамень". Рэктар універсітэта Малеўскі даў дазвол на адкрытую дзейнасць гуртка пры ўмове, што яго склад будзе выключна студэнцкім. У адпаведнасці са статутам, мэта арганізацыі вызначалася працай над інтэлектуальным і маральным развіццём навучэнцаў універсітэта. А ў 8 артыкуле гэтага дакумента адзначалася, што гуртkoўцы павінны жадаць дабра сваім суайчыннікам незалежна ад іх стану, захоўваць карысныя традыцыі продкаў, любіць сваю прыродную мову і вывучаць яе. Прыроднай жа мовай для большасці прамяністых была мова мясцовага народа. Гуртkoўцы вельмі цікавіліся Літвой-Беларуссю. Хутка стала вядома аб загарадных гулянках прамяністых, на якія збіраліся сотні прадстаўнікоў віленскай моладзі. Там, далей ад пільнага вока універсітэцкага начальства, вяліся палітычныя дыспуты, гучалі вершы, беларускія народныя песні. Удзел у дзейнасці таварыства нестудэнцкай моладзі стаў фармальнай падставай для яго закрыцця ў 1820 годзе.

**ФІЛАРЭТЫ.** Тады лідэры прамяністых стварылі тайнае "Таварыства філарэтаў" (аматараў дабрадзейнасці). Яго старшынёй стаў усё той жа нястомны Тамаш Зан, а намеснікамі — Ян

50

Чачот і Францішак Малеўскі, сын рэктара універсітэта. Гэта арганізацыя ўжо мела выразна акрэсленую палітычную мэту — адраджэнне Рэчы Паспалітай, у якую павінна была ўвайсці і Літва-Беларусь. Адным з важнейшых сродкаў падрыхтоўкі да барацьбы за незалежнасць лічылася навукова-асветная дзейнасць. Філарэты вялі статыстычнае вывучэнне краю, агітавалі ў школах, пранікаючы нават у зачыненыя дзявочыя пансіёны. У структуры таварыства прагледаліся прынцыпы масонскіх ложаў. Для меншай рызыкі яно дзялілася на невялічкія секцыі, якія аб'ядноўваліся ў аддзелы ці саюзы. Кожны аддзел меў свой колер, напрыклад, блакітны ў аматараў літаратуры. Арганізацыя філарэтаў была буйнейшай у параўнанні з папярэднімі. У яе складзе налічвалася больш 300 дзейных сяброў. Сярод іх былі не толькі студэнты, але і памешчыкі, адвакаты, настаўнікі. Таварыствы філарэтаў узніклі сярод навучэнцаў Вышэйшага піярскага вучылішча ў Полацку і сярод вучнёўства Беластока.

У 1823 годзе вучань 5-га класа Віленскай гімназіі напісаў на школьнай дошцы: "Няхай жыве канстытуцыя 3 мая". Расследаванне выкрыла існаванне ў горадзе тайнай арганізацыі. Тамаш Зан паспеў спаліць дакументы таварыства, але гэта не дапамагло пазбегнуць кары. Кіраўнікі былі сасланы ва ўнутраныя губерні Расіі, іншых

51

гуртkoўцаў, у тым ліку і Адама Міцкевіча, прымусілі пакінуць універсітэт і выехаць з Вільні. Страціў сваю пасаду і папячыцель навучальнай акругі Адам Чартарыскі. Студэнты і вучні акругі трапілі пад пільны адміністрацыйна-паліцэйскі нагляд. З 1825 года юнакам забараняецца выезд для навучання ў замежныя універсітэты, у тым ліку і польскія.

**ВЯРТАННЕ ДА НАРОДНЫХ КАРАНЁЎ.** Дзейнасць віленскіх таварыстваў мела вялікае значэнне ў гісторыі нашага народа, бо дала штуршок яго нацыянальна-вызваленчаму руху. Мясцовая шляхецкая інтэлігенцыя прыступіла да распрацоўкі нацыянальна-культурных праблем. Ян Чачот, Адам Міцкевіч і іншыя ўпершыню надрукавалі літоўска-беларускія легенды, песні, паданні на польскай мове, а асобныя творы — на беларускай (лацінскім шрыфтам). Пад іх уздзеяннем за паэтычнае пяро ўзяўся Паўлюк Багрым, першы беларускі народны вершаскладальнік.

**АЛЕ ЦІ ДАЙШЛА СПРАВА ДА НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВАЛЕНЧАГА РУХУ!** Працэс самаўсведамлення і самапазнання беларусаў, які распачаўся ў сценах Віленскага універсітэта і вёўся ў польскамоўнай форме, быў гвалтоўна прыпынены царскім урадам па палітычных матывах. Любы рух на Літве-Беларусі атаясамліваўся з польскім.

52

І сапраўды яго было цяжка вылучыць з польскага, бо мясцовая інтэлігенцыя звязвала будучыню свайго народа з адраджэннем Рэчы Паспалітай. Яна нават не высоўвала патрабавання звяржэння ў Расіі самаўладдзя, таму што не жадала над сабой ніякай расійскай улады. Палітычная праграма беларускіх спаланізаваных патрыётаў застаецца малавядомай. Аднак, мяркуючы па сцёртасці традыцый Вялікага Княства Літоўскага ў самасвядомасці літоўска-беларускай шляхты, патрабаванне ўзнаўлення Рэчы Паспалітай не сведчыць пра яе імкненне да захавання незалежнасці Літвы-Беларусі ў складзе гэтай дзяржавы. Менавіта ў пачатку XIX стагоддзя ў польскай гістарыяграфіі пашыраўся погляд на Рэч Паспалітую як на дзяржаву выключна польскую. Пра тое, што гэта была канфедэрацыя ўласна Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, не ўспаміналася. Віленскія асветнікі былі прыхільнікамі скасавання прыгону, але таксама звязвалі гэта не з расійскімі, а з рэформамі ва ўзноўленай Рэчы Паспалітай.

### 5.3. Армейская апазіцыя

**НАСТРОІ ПЕРАМОЖЦАЎ НАПАЛЕОНА.** У такой мілітарызаванай краіне, як Расія, служыць у войску лічылася за вялікі гонар. Лепшыя прадстаўнікі рускага дваранства насілі

Захар ШЫБЕКА

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

53

афіцэрскія мундзіры. Таму не выпадкова, што менавіта сярод афіцэраў зарадзіўся рэфармісцкі рух як рэакцыя на спробу цара і яго аднадумца міністра Аракчэева ўвесці ў арміі палачную дысцыпліну, ператварыць краіну ў суцэльную казарму. Рабскае жыццё, непавага да правоў чалавека асабліва кідаліся ў вочы арыстакратычнай моладзі пасля яе вяртання з замежных паходаў супраць Напалеона.

Тады было звычайнай справай, што прадстаўнікі вышэйшых пластоў грамадства і Еўропы, і Літвы-Беларусі, і Расіі гуртаваліся ў масонскія ложы і розныя таварыствы. З такіх аб'яднанняў і выйшлі дзекабрысты, лепшыя прадстаўнікі рускага дваранства, якія выпрацавалі праграму звяржэння самадзяржаўя і адмены прыгону. Іх погляды фарміраваліся не без уплыву прагрэсіўных колаў заходніх губерняў.

**ПАДАРОЖЖА СЯМЁНАЎЦАЎ НА ЛІТВУ-БЕЛАРУСЬ.** У 1820 годзе большасць афіцэраў гвардзейскага Сямёнаўскага палка, размешчанага каля Пецярбурга, выступіла супраць здзекаў з салдатаў. Аляксандр І быў незадаволены і ў рэшце рэшт вырашыў астудзіць дзёрзкасць вайсковай моладзі паходам на Літву-Беларусь. З лета 1821 года па лета 1822 года 60-тысячнае рускае войска кватаравала па гарадах, мястэчках, вёсках і маёнтках Віцебскай, Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў. Такое царскае

54

пакаранне многім афіцэрам прыйшлося даспадобы. Яны смачна елі, многа пілі, завіхаліся ля шляхцянак, красаваліся на балах у панскіх палацах, да іх паслуг у губернскіх гарадах былі тэатры. У правінцыі не патрабаваліся тыя муштра і паказуха, што ў сталіцы. Быў час для сустрэч, візітаў, спрэчак, шчырых размоў. Але якраз гэта і ўваходзіла ў планы царскага ўрада. У Пецярбургу разлічвалі, што рускія гвардзейцы зробяць на літоўска-беларускае грамадства добры ўплыў, знойдуць паразуменне з мясцовай арыстакратыяй. Русіфікаваць і падпарадкаваць захоплены край царызм мог толькі з дапамогай войска.

Беларускае насельніцтва сустрэла рускую армію стрымана. Юнкер А. Адоеўскі здзіўляўся, як моцна адчуваецца розніца паміж Расіяй і Літвой-Беларуссю адразу ж за мяжой Пскоўскай губерні, і шкадаваў, што беларусыя паненкі пазбягаюць афіцэраў. На рускіх тут глядзелі як на чужынцаў. Мікіта Мураўёў, адзін з арганізатараў пецярбургскага "Паўночнага таварыства", пісаў да маці, што мясцовыя жыхары столькі ж ведаюць рускіх, колькі кітайцаў. Аднак збліжэнне, безумоўна, адбывалася. Афіцэры вывучалі польскую мову. Ідзі патрыятызму і рэфармізму ў аднолькавай меры былі блізкімі як рускай, так і літоўска-беларускай спаланізаванай арыстакратыі, калі яна дбала пра

55

лепшую долю для народа. Сябар Пушкіна, рускі літаратар Аляксандр Бястужаў (Марлінскі), быў у захапленні ад сям'і Вайдзевічаў і стаў частым госцем у іх маёнтку Выганічы, што пад Мінскам. Відаць, не выпадкова, што і першы варыянт рускай канстытуцыі Мікіта Мураўёў напісаў у Віцебску і Мінску. Вынікі паходу былі зусім не тыя, якіх чакаў імператар. Гвардзейцы вярнуліся ў сталіцу яшчэ больш перакананымі праціўнікамі існуючых парадкаў. Яны аказаліся слабымі "каланізатарамі", але добрымі вучнямі ў справе еўрапейскага рускага грамадства, якая ішла праз Літву-Беларусь.

**БАБРУЙСКАЯ ЗМОВА.** Другі эпізод з гісторыі дзекабрыстаў на нашай зямлі адбыўся ў Бабруйскай крэпасці. Тут летам 1823 года служылі члены "Паўднёвага таварыства" Сяргей Мураўёў-Апостал і Міхаіл Бястужаў-Румін. Разам са сваімі аднадумцамі яны распрацавалі план паўстання супраць цара. Чакаўся прыезд Аляксандра І у Бабруйск для агляду войск. Меркавалася арыштаваць цара, пасадзіць яго ў крэпасць, а войска рушыць на Маскву, адначасова захапіўшы ўладу ў Пецярбургу. 12 верасня імператар начаваў за крапаснымі сценамі Бабруйска пад аховай змоўшчыкаў, але арыштаваць яго так ніхто і не адважыўся.

**СПРОБА ПАЛАЦАВАГА ПЕРАВАРОТУ.** Пасля смерці бяздзетнага Аляксандра І яго браты

56

Канстанцін і Мікалай доўга высвятлялі, каму павінна належаць царская карона. А тым часам 14 снежня 1825 года дваранская апазіцыя вывела на Сенацкую плошчу сталіцы верныя сабе палкі і спрабавала захапіць уладу. Але выступленне было падаўлена. Царскі трон заняў Мікалай І.

**ПЛАНЫ ДЗЕКАБРЫСТАЎ.** Дзекабрысцкі рух няспынна агортваецца рамантызмам, але ён ніколі не меў нічога агульнага з нашым нацыянальным адраджэннем. Дэмакратызм праектаў канстытуцыі дзекабрыстаў спалучаўся з вялікадзяржаўным рускім шавінізмам. Лідэр "Паўднёвага таварыства" Павел Пестэль абараняў ідэю адзінай і непадзельнай Расіі і толькі для царства Польскага рабіў выключэнне. Яно магло атрымаць незалежнасць, застаючыся ў цесным палітычным і ваенным саюзе з Расіяй. Каб заручыцца падтрымкай з боку польскага "Патрыятычнага таварыства" ў звяржэнні самаўладдзя, Пестэль згаджаўся на тэрытарыяльныя ўступкі. Планавалася перадаць палякам усю Гродзенскую, Віленскую і большую частку Мінскай губерні. Гэта была першая спроба падзелу зямель паміж Расіяй і Польшчай без усялякай згоды на тое саміх беларусаў. Ім адмаўлялі ў праве на самастойнасць. Увогуле, пестэлеўская праграма дэкларавала поўную русіфікацыю нярускага насельніцтва.

ФІЛАМАТ-ВЫГНАННІК Францішак МАЛЕЎСКІ

# ВЫКАНАЎ АБАВЯЗАК ПЕРАД АЙЧЫНАЙ

Сын рэктара Віленскага універсітэта Сымона Малеўскага няўрымслівы Францішак Геранім Малеўскі (сябры звалі яго яшчэ Ярош), хоць быў крыху маладзейшы за большасць сваіх сяброўфіламатаў (нарадзіўся ён 21 жніўня 1800 года ў Вільні), але вылучаўся сярод іншых сваёй шырокай адукаванасцю, эрудыцыяй, бездакорным выхаваннем. Ужо ў маладым узросце ён дасканала валодаў многімі еўрапейскімі мовамі -- французскай, нямецкай, англійскай, італьянскай, лацінскай, польскай і беларускай, добра ведаў сусветную літаратуру, асабліва нямецкую, шчодра дзяліўся сваімі ведамі з сябрамі, якія чуйна лавілі новыя павевы з Захаду, сэрцам успрыняўшы дух рамантызму, што нёс літаратуры ажыўленне. Ва ўспрыманні новых ідэй шмат дапамог Францішак Малеўскі свайму сябру Адаму Міцкевічу, якога забяспечваў літаратурай з багатай сямейнай бібліятэкі, дапамагаў арыентавацца ў гісторыі еўрапейскіх літаратур. Удзячны Міцкевіч прысвяціў Францішку Малеўскаму верш "Жанкі". Яго імя значыцца і між іменаў сяброў, якім Міцкевіч дэкляраваў сваю першую паэтычную кнігу "Балады і рамансы". Як адзначаў гісторык польскай літаратуры Юзаф Календах, Францішак Малеўскі "быў узорам працавітасці для іншых, вельмі патрабавальны да сяброў, але перш за ўсё да сябе".

У Віленскім універсітэцэ, куды ён паступіў у 1815 годзе, Францішак Малеўскі вучыўся на юрыста. Але жыва цікавіўся і іншымі навукамі.

Ужо ў самыя першыя месяцы пасля ўтварэння Таварыства філаматаў семнаццацігадовы студэнт універсітэта з рэкамендацыі Адама Міцкевіча прымаецца ў члены гэтай арганізацыі і становіцца адным з самых актыўных яе дзеячаў. Ён выбіраецца на пэўны час сакратаром згуртавання, а пасля выезду Адама Міцкевіча ў Коўна з кастрычніка 1821 года ўзначальвае I аддзел Таварыства філаматаў. Як студэнт-юрыст, Францішак Малеўскі бярэ чынны ўдзел у напісанні статутаў згуртавання, у рэарганізацыі таварыства, актыўна выступае на пасяджэннях з навуковымі паведамленнямі, удзельнічае ў дыскусіях і дыспутах. Калі ўтварылася Таварыства філарэтаў, Францішка Малеўскага выбіраюць яго віцэпрэзідэнтам. Ён жа распрацаваў і статут гэтай новай прадстаўнічай арганізацыі.

З усёй сваёй маладой энергіяй узяўся Францішак Малеўскі за грамадскую працу для дабра краю, для яго асветы. Гэта яму належыць ідэя ўтварэння спецыяльнага Статыстычнага камітэта для ўсебаковага вывучэння Літвы. Пра абавязак філаматаў вывучаць родны край Францішак Малеўскі не раз гаварыў на навуковых пасяджэннях таварыства, дзе сцвярджаў, што "нельга быць госцем на ўласнай зямлі, нельга не дбаць пра яе патрэбы..." Арганізаваўшы Статыстычны камітэт, ён становіцца яго старшынёй і адразу ж разгортвае шырокую дзейнасць па арганізацыі збору геаграфічных і этнаграфічных матэрыялаў з акругі Віленскага універсітэта. Каб прылучыць да гэтай працы самыя шырокія колы адукаваных людзей, Францішак Малеўскі на аснове апублікаваных у друку яшчэ да вайны 1812 года афіцыйных інструкцый для вывучэння стану асветы складае з дапамогай Міхаіла Рукевіча і іншых філаматаў сваю, філамацкую інструкцыю, у якой падае шырокую праграму вывучэння роднага краю, яго прыроды, геаграфіі, складу насельніцтва, а таксама скіроўвае ўвагу збіральнікаў на дэталёвае вывучэнне этнаграфіі, мовы розных станаў грамадства, на самабытнасць мясцовай культуры, імкнецца выявіць чужаземныя ўплывы на яе, асабліва ўздзеянне на яе "маскалёў"-вайскоўцаў.

На жаль, ажыццявіць такую цікавую задуму перашкодзіла паліцыя, якая, даведаўшыся пра нелегальнае выданне філаматамі гэтага "Геаграфічнага апісання, ці Інструкцыі па зборы звестак для вывучэння парафій", канфіскавала ўвесь тыраж брашуры, за што філаматы мелі шмат непрыемнасцяў.

Не ўдалося Францішку Малеўскаму стварыць і прадстаўнічы Саюз літоўскай моладзі, пры дапамозе якога ён марыў уцягнуць моладзь Беларусі і прылеглых земляў у карысную грамадскую дзейнасць. Ва ўмовах канспірацыі такое шырокае аб'яднанне моладзі было проста нерэальнае. Тое ж трэба сказаць і пра спробу Францішка Малеўскага стварыць Саюз маладых адвакатаў.

Нягледзячы на вялікія перашкоды, філаматы рабілі ўсё магчымае для пашырэння сваіх ідэй. Галоўным для іх была асвета народа. Францішак Малеўскі надаваў тут вялікае значэнне новым метадам навучання, якія садзейнічалі пашырэнню асветы сярод простага люду, давалі адукацыю сялянскім дзецям. Перш за ўсё гэта -- ланкастарская сістэма навучання, якую ён увёў у Шчорсах пры падтрымцы графа Адама Храптовіча. У пісьме да Яна Чачота 7 жніўня 1821 года Францішак Малеўскі так расказвае пра арганізаваную ім шчорсаўскую школу Ланкастара: "Я не браўся за кнігі, нават падумаць не мог пра нашу работу, бо цэлыя дні праводзіў то ў садзе, то ў школе Ланкастара. З увагаю гляджу на 250 дзяцей, сабраных разам у вялікім памяшканні. Што гэта за карціна, што за поле для назірання, што за ўцеха! Бачу, што лепш скарыстоўваць метад Ланкастара не ў горадзе, а на вёсцы, і не 50 ці 100, а значна болей дзяцей можна вучыць пры яго дапамозе. Перад вачамі ў мяне сялянскія ўборы, сярмяжкі, кашулькі, палатняныя куртачкі. Гэтулькі многа вучняў! Толькі тут можна ацаніць Ланкастара як вялікага дабрадзея, нізка пакланіцца яму за такое вынаходства. Ці схіліцца перад блаславёным наканаваннем, што дало ў гэтым стагоддзі такое адкрыццё..."

Гэтую вельмі прагрэсіўную сістэму навучання Францішак Малеўскі імкнецца пашырыць на ўсю Літву, ахапіць з яе дапамогай як мага болей сялянскіх дзяцей, што імкнуцца да навукі. На старонках віленскага друку ён выступае з артыкуламі, дзе расказвае пра вопыт шчорсаўскай школы Ланкастара, горача заклікае пераймаць яго ў іншых школах.

Пасля сканчэння Віленскага універсітэта Францішку Малеўскаму адкрылася магчымасць стаць прафесарам права гэтай паважнай навучальнай установы, застацца тут праца-

*ВЕЧАР, ПРЫСВЕЧАНЫ ЮБІЛЕЮ Мікалая ЧУРКІНА*

# "ПЕСНЯЙ ТОЛЬКІ НА СВЕЦЕ ЖЫВУ Я..."

Споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння Мікалая Чуркіна, кампазітара, фальклырыста і педагога, народнага артыста Беларусі.

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася вечарына, прысвечаная гэтай даце. З цёплымі ўспамінамі выступілі беларускі музыказнаўца, заслужаны дзеяч культуры Браніслаў Смольскі, кандыдат педагагічных навук, дачка вядомага вучонага-хіміка, дзеяча беларускага Адраджэння Язэпа Сушынскага Ядвіга Кавальчук, нявестка кампазітара Валянціна Чуркіна. Яны нагадалі прысутным пра лепшыя чалавечыя якасці Мікалая Мікалаевіча, яго сціпласць, улюбёнасць у жыццё і Беларусь, расказалі пра творчасць кампазітара як цэлую эпоху ў развіцці беларускай нацыянальнай культуры.

Мікалай Чуркін быў адным з заснавальнікаў беларускай прафесійнай музыкі, пачынальнікам нацыянальнага жанравага сімфанізму, дзіцячай музыкі.

Нарадзіўся кампазітар у 1869 годзе на Каўказе ў мястэчку Джалыл-Оглы ў даволі беднай сялянскай сям'і, рана страціў бацьку, і толькі знаёмства са спагадлівымі людзьмі з ваеннага шпіталя, які знаходзіўся непадалёку ад іх мястэчка, дапамагло Мікалаю паехаць ў Тыфліс і паступіць у ваенна-фельчарскую школу.

Музычны талент хлопчыка выявіўся рана. З шасці гадоў ён спяваў у царкоўным хоры і прыслужваў у алтары. У ваенна-фельчарскай школе іграў у духавым аркестры і таксама спяваў у хоры, займаўся ў класе малявання, а пасля заканчэння школы застаўся там на пасадзе выхаваццеля і капельмайстра духавога аркестра. Адначасова паступіў у Тыфліскае музычнае вучылішча і пачаў займацца ў вядомага рускага кампазітара Іпалітава-Іванава, які вырас на жывых традыцыях "магутнай кучкі". Настаўнік і вучань часта выязджалі ў бліжэйшыя аулы, дзе слухалі народных спевакоў-ашугаў. У Тыфлісе Мікалай Чуркін пазнаёміўся з кампазітарамі Антонам Арэнскім і Антонам Рубінштэйнам, а таксама з Фёдарам Шаляпіным, які толькі яшчэ вучыўся спяваць у вопытнага спевака Усатава. У 1892 годзе на выпускным экзамене ў вучылішчы прысутнічаў Пётр Ільіч Чайкоўскі, які ўхваліў твор Чуркіна -- фугу для фартэпіяна.

З 1903 года М.Чуркін працуе ў Беларусі. Простая і шчырая беларуская песня хутка знайшла шлях да сэрца музыканта. І, напэўна, праз песню стала такой дарагой для яго Беларусь -- яго новая радзіма.

Увесь свой вольны час, свае сціплыя зберажэнні Мікалай Чуркін аддаваў шматлікім фальклорным экспедыцыям. Вандруючы з вёскі ў вёску, з раёна ў раён, ён запісвае ўсё лепшае, што створана музычным геніем народа. Працуючы ў Вільні, кампазітар сустрэўся з вядомым беларускім этнографам Е.Раманавым і сумесна з ім запісаў звыш 50 народных песень, якія склалі асобны выпуск яго "Беларускага зборніка".

Усяго да пачатку Вялікай Айчыннай вайны было запісана больш за 2 000 беларускіх песень і танцаў. Частка іх была апублікавана ў 1940 годзе ў I томе акадэмічнага выдання "Песні беларускага народа". 400 лепшых песень былі падрыхтаваны да выдання асобным зборнікам, але вайна амаль цалкам знішчыла вынікі 40-гадовай працы, і пасля заканчэння яе прыйшлося ўзяцца за аднаўленне загінуўшага матэрыялу. У 1949 годзе выйшаў зборнік "Беларускія народныя песні і танцы", дзе ў асноўным прадстаўлены песні дарэвалюцыйныя.

Творчая спадчына М.Чуркіна вельмі багатая. Ім напісаны тры



оперы, дзве музычныя камедыі, тры сімфаньеты, пяць сюіт, рапсодыя, шмат твораў для Дзяржаўнага народнага аркестра, струнныя квартэты, буйныя інструментальныя творы, многа рамансаў, песень, хораў, апрацовак беларускіх народных песень і танцаў.

Працуючы ў Віленскім настаўніцкім інстытуце, Мікалай Чуркін дасканала авалодаў беларускай мовай. Там ён упершыню пазнаёміўся з творамі Янкі Купалы, і яны глыбока запалі яму ў душу. На вершах Купалы вучыўся ён мове народа, з якім назаўсёды звязаў свой лёс. Менавіта яны далі яму правільнае ўяўленне аб беларусах, аб іх гаротным лёсе і марах на будучыню. Перагортваючы аднойчы старонкі Купалавых вершаў, кампазітар заўважыў, што гэтыя вершы вельмі музычныя і самі просяцца ў песню. Наўгад адкрыў томік Купалы, падышоў да інструмента.

Верш "За сахой, бараной" так сам і клаўся на музыку. "Ты прыйдзі" — раманс, сапраўдны раманс. Забыўшыся пра ўсё на свеце, Мікалай Мікалаевіч да раніцы праседзеў за піяніна. Раманс "Ты прыйдзі"кампазітар прысвяціў У.Луцэвіч, жонцы Янкі Купалы. Яго вельмі любіў беларускі спявак Міхась Забэйда-Суміцкі і часта выконваў.

Асабіста з Янкам Купалам кампазітар пазнаёміўся пазней і напісаў на яго вершы шматлікія хоры, рамансы, песні. У апошнія гады працаваў над операй "Раскіданае гняздо" па аднайменнай драме Янкі Купалы. Паэту прысвяціў уверцюру "Памяці Янкі Купалы".

Удзельнікі вечарыны змаглі азнаёміцца з выставай, створанай навукоўцамі музея паводле фондавых матэрыялаў і сямейнага архіва Чуркіных, праслухаць беларускія народныя песні, якія ў свой час запісаў М.Чуркін, у выкананні адметнага фальклорнага дзіцячага ансамбля школы N 4 горада Мінска.

Мікалай Чуркін пражыў доўгае творчае жыццё. Ён памёр у 1964 годзе. І калі мы сёння гаворым аб высокім прафесійным узроўні беларускай музыкі, аб яе творчай сталасці, то ўсведамляем, што яна дасягнула гэтага дзякуючы нястомнай працы яе заснавальнікаў. І сярод іх — патрыярх нашай музыкі Мікалай Чуркін.

**Ларыса АСТАПКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: на вечар прыйшлі Валянціна ЧУРКІНА (нявестка кампазітара) і Браніслаў СМОЛЬСКІ.**

**НОВАЕ ВЫДАННЕ**

## ЗАСТРУМЕНІЛА "КРЫНІЦА ЖЫЦЦЯ"

У Слоніме дзесяцітысячным тыражом аддрукаваны першы нумар новага часопіса "Крыніца жыцця". Гэта орган евангельскіх хрысціян-баптыстаў Беларусі, які пачаў выдавацца на сродкі Хрысціянскай дабрачыннай місіі "Емануіл" і добраахвотных ахвяраванняў вернікаў.

Часопіс "Крыніца жыцця" выйшаў на дзвюх мовах -- беларускай і рускай. Праўда, пераважае руская, хаця ў справаздачы, якая тут апублікавана з першага з'езда ЕХБ Беларусі, гаворыцца, што "неабходна вывучаць беларускую мову". Хочацца верыць, што гэты друкаваны орган усё ж перавагу будзе аддаваць роднай нашай мове.

Адкрываецца "Крыніца жыцця" беларускім гімнам евангельскіх хрысціян-баптыстаў:

**Чакаем Цябе, наш Ісус,**
**І молім: прыйдзі Ты да нас.**
**Мы любім сваю Беларусь**
**І хочам, каб Ты яе спас.**

Далей у часопісе змешчаны артыкулы Чарлза Фінея "Што такое абуджэнне", Раісы Шульган "Беларусь", "Транссусветнае радыё ў Беларусі", "Што такое сям'я?" і іншыя рэлігійныя матэрыялы.

Ёсць і старонка для дзяцей, дзе змешчаны дзіцячыя вершы рэлігійнага напрамку Васіля Трубчыка і казка Бэйлі "Небяспечнае падарожжа па Алясцы".

На суд чытачоў выносяць свае вершы і аўтары А.Казак, У.Кучынскі і Ю.Дабракоў, а на апошніх старонках новага часопіса пачынае сваю дзейнасць завочная біблейская школа.

"Крыніца жыцця" прыгожа аформлена мастаком Васілём Макарчуком, а рэдакцыя яго знаходзіцца ў Кобрыне.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

ваць. Дзеля гэтага універсітэт накіраваў яго за мяжу, дзе ён мог паглыбіць і пашырыць свае веды ў выбранай галіне навукі. Малеўскі пабываў у Варшаве, а потым паехаў у Берлін, дзе слухаў лекцыі нямецкіх вучоных. У 1822 годзе ён наведвае Вену, Лейпцыг, Дрэздэн, Прагу, знаходзіць там шмат карыснага для папаўнення сваіх ведаў. У Празе малады вучоны пазнаёміўся з чэшскім "будзіцелем" Вацлавам Ганкам, з якім шчыра пасябраваў, наладзіўшы потым шматгадовую перапіску. Відавочна, з Ганкам якраз ён пазнаёміў потым і Адама Міцкевіча.

У канцы 1823 года Малеўскага нечакана арыштоўваюць нямецкія ўлады без прад'яўлення хоць бы якога абвінавачвання. Толькі потым яму паведамілі аб арышце ў Вільні сяброў-філаматаў, а таксама філарэтаў. Яго даставілі з Берліна спачатку ў Варшаву, дзе ён трапіў на допыт да самога цэсарэвіча. Паколькі сябры не змаглі перадаць Францішку Малеўскаму, як яму трымацца і што казаць на допыце, ён міжволі прагаварыўся пра існаванне Таварыства філаматаў, што яго сябры старанна ўтойвалі ад улад. Такім чынам, ён стаў міжвольнай прычынай раскрыцця гэтага ядра студэнцкіх, і не толькі студэнцкіх, згуртаванняў.

За ўдзел у тайных арганізацыях моладзі Францішка Малеўскага спачатку высылаюць разам з яго сябрамі ў Пецярбург, у распараджэнне Міністэрства асветы, якое пастанавіла паслаць іх у Адэсу, выкарыстаць іх як выкладчыкаў тамтэйшай гімназіі. З Адэсы Малеўскі трапіў з сябрамі ў канцы 1825 года ў Маскву. Тут яго і Адама Міцкевіча залічылі на службу ў канцылярыю маскоўскага генерал-губернатара ліберальнага князя Д.Галіцына. І жыў Малеўскі на адной кватэры з Міцкевічам.

Прыехаўшы ў канцы 1827 года ў Пецярбург, сябры пасяляюцца ў паўночнай сталіцы. Праз два гады яны разлучыліся назаўсёды. Адам Міцкевіч выехаў за мяжу, а Францішак Малеўскі застаўся жыць у Пецярбургу.

У Францішка Малеўскага доля была шчаслівейшая, чым у яго сяброў. Ён быў адзіны з усіх беларускіх выгнаннікаў, каму ўдалося і па-за межамі радзімы працаваць на яе карысць. Пачалося з таго, што яго запрасілі на працу ў 2-е аддзяленне "Собственной его императорского величества канцелярии", якое з 1826 года ажыццяўляла пад кіраўніцтвам прагрэсіўнага дзяржаўнага дзеяча М.Сперанскага кадыфікацыю законаў. Разам з былым сваім настаўнікам, прафесарам Віленскага універсітэта, знаўцам гісторыі Вялікага Княства Літоўскага Ігнатам Даніловічам, гэтакім жа выгнаннікам з роднай беларускай зямлі, і яшчэ адным земляком-гісторыкам Каравіцкім Малеўскі заняўся зборам "провинциальных законов для западных губерний, присоединенных от Польши", як гаварылася ў царскім дакуменце.

**Кастусь ЦВІРКА.**

**(Заканчэнне будзе).**



**Рэспубліканскі фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік" адбыўся ў Паставах. Сюды з'ехаліся лепшыя фальклорныя калектывы, таленавітыя народныя музыканты, танцоры, частушачнікі.**

**Зачаравалі гледачоў сваім мастацтвам ансамбль народнай музыкі "Калі ласка" лідскага гарадскога Палаца культуры, фальклорны ансамбль "Спадчына" з Гомельшчыны, пастаўскі калектыў "Паазер'е", ансамбль народнай музыкі "Магілёўцы" і "Тутэйшая шляхта" з Мінска. Журы фестывалю на чале з рэктарам Беларускай акадэміі музыкі М.Казінцом прыз пераможцу -- цымбалы -- уручыла ансамблю народнай музыкі "Палешукі" іванаўскага гарадскога Дома культуры. Фестываль у Паставах становіцца міжнародным. Ужо ў гэтым годзе гасцямі беларусаў былі калектывы з Польшчы, Расіі, Украіны.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі фестывалю на вуліцах горада; гучыць народная мелодыя.**

**Фота аўтара.**



# ПРАЎДЗІВЫ І МУЖНЫ МАСТАК

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**



Вайна пачалася для 17-гадовага юнака з цяжкай працы на абарончых работах. Улетку 1942 года быў прызваны ў армію, скончыў Саратаўскае пяхотнае вучылішча, ваяваў, быў двойчы паранены. У 1944 годзе бацькі Васіля Быкава атрымалі паведамленне, што іх сын мужна загінуў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі каля Кіраваграда, і смерць гэта была засведчана на абеліску. Аднак ваенны лёс быў літасцівы, В. Быкаў выжыў і прайшоў вайну да пераможнага канца. Ваяваў у Румыніі, Балгарыі, Венгрыі, Югаславіі, Аўстрыі, служыў на Украіне, Беларусі, Далёкім Усходзе. Пасля дэмабілізацыі жыў у Гродне, працаваў мастаком у гродзенскіх майстэрнях, у рэдакцыі "Гродзенскай праўды", быў карэспандэнтам гэтай газеты. Пераезд у Мінск звязаны з канчатковым выхадам Васіля Быкава на творчую працу, пачаткам якой, па ўсіх энцыклапедычных даведніках, лічыцца 1947 год, калі ў часопісе "Вожык" з'явілася апавяданне "Дапякло", а ў 1949 годзе ў "Гродзенскай праўдзе" было надрукавана яго першае ваеннае апавяданне "У першым баі". Але сам Васіль Уладзіміравіч свой пісьменніцкі лёс адлічвае з 1951 года, калі на Курылах, дзе тады служыў, напісаў апавяданні "Смерць чалавека" і "Абознік". Іх ён паслаў на водгук М. Лынькову. Нягледзячы на ўвогуле ўдалы творчы дэбют, В. Быкаў не быў перакананы, што літаратура -- яго жыццёвае прызванне. Аднак з героя апавядання "У першым баі" Мікалая Беражнога пачаліся быкаўскія героі -- маладыя салдаты і афіцэры з трагічным франтавым лёсам. Першы зборнік "Ход канём" (1960) -- гэта быццам адыход ад ваеннай тэмы, тут мы ўваходзім у пасляваенны побыт людзей, іх узаемаадносіны, працу, каханне. Наогул пачатак 60-х гадоў сведчыць, што для В. Быкава гэта быў час пошукаў самога сябе. Ён піша сатырычныя мініяцюры, гісторыка-прыгодніцкую аповесць "Апошні баец", серыю навел на маральна-этычныя тэмы, другі цыкл ваенных апавяданняў, нарысы, рэцэнзіі. Аўтар ішоў да свайго адкрыцця свету, да аналітычнага даследавання чалавечага быцця, рашуча адмаўляючыся ад дробнатэмнасці, апісальнасці, павярхоўнасці.

З "Жураўлінага крыку" ідзе адлік аповесцей, дзе пісьменнік гранічна праўдзіва і мужна раскрывае падзеі вайны ў іх аголеным драматызме і бесчалавечнай жорсткасці. Аднак у застойныя гады афіцыйная крытыка непрымальна ставілася да бескампрамісных твораў Васіля Быкава. Адна з самых вострых і праўдзівых аповесцей празаіка "Мёртвым не баліць" убачыла свет на той час толькі ў часопісах "Маладосць" і "Новый мир", дзякуючы грамадзянскай мужнасці іх рэдактараў П.Панчанкі і А.Твардоўскага. Пісьменніка абвінавачвалі ў тым, што ён не з "тых" пазіцый піша пра вайну, скажае праўду, ачарняе гераічных савецкіх воінаў. Былі арганізаваны калектыўныя пісьмы чытачоў, "незадаволеных быкаўскім адлюстраваннем падзей вайны". Нягледзячы на тое, што многія творчыя саюзы, выдавецтва "Мастацкая літаратура" і яго дырэктар М.Дубянецкі, шматлікія прыхільнікі таленту беларускага пісьменніка патрабавалі ўключыць "Мёртвым не баліць" у збор твораў В.Быкава, партыйныя ідэолагі М.Суслаў, а пасля М.Зімянін загадалі ніколі яе не друкаваць і ўсялякія размовы пра выданне спыніць, хоць у многіх краінах свету гэты твор ужо тады выйшаў асобнай кнігай. І ўсё ж грамадская думка перамагла: аповесць была ўключана ў 4-ты том збору твораў Васіля Быкава.

Ваенныя аповесці пісьменніка, якую б з іх мы ні ўзялі: "Здрада", "Трэцяя ракета", "Альпійская балада", "Дажыць да світання", "Сотнікаў", "Яго батальён", "Воўчая зграя", "Пайсці і не вярнуцца", "Абеліск", "Круглянскі мост", "Праклятая вышыня", "Пастка", "Кар'ер", "У тумане", кожная, нягледзячы на знешне падобную тэматычную скіраванасць, па-новаму высвечвае сутнасць чалавека ў экстрэмальных абставінах вайны. Ваенная тэма для В.Быкава -- той добра знаёмы плацдарм, дзе ён вырашае самыя надзённыя, але і маштабныя пытанні чалавечага быцця: маральная стойкасць героя, яго духоўная напоўненасць, вернасць перакананням, здольнасць захоўваць чалавечую годнасць. Яго творы, нягледзячы на трагізм, нязменна нясуць у сабе моцны зарад маральнай энергіі, неабходнай чалавеку і сёння. Міжвольна кожны з нас, чытаючы аповесці В.Быкава, параўноўвае свае магчымасці з агромністай сілай духу, высокай чалавечай годнасцю, мужнасцю Сотнікава, які загінуў, але маральна перамог ворага. Мы разумеем дабрыню, пачуццё адказнасці перад памяццю сяброў у партызана Леўчука з "Воўчай зграі", які вярнуўся ў самае пекла бою, каб выратаваць дзіця, або настаўніка Мароза з "Абеліска", што загінуў разам са сваімі вучнямі.

Хвалююць быкаўскія аповесці "Пайсці і не вярнуцца", "Знак бяды", "Кар'ер", дзе ў цэнтры вобразы жанчын, раскрытыя з яскравай мастацкай сілай і дакладнасцю. Веліч і мужнасць жаночай душы, якая вытрымала пакуты вайны, сталі сёння нашым духоўным вопытам, а самі гераіні ўспрымаюцца не проста як літаратурныя вобразы, а як жывыя і дарагія нам людзі.

Аднак вайна, хоць і галоўная, але не адзіная тэма ў творчасці В.Быкава. Не менш востра і праўдзіва паказаў пісьменнік і падзеі калектывізацыі, да якіх упершыню звярнуўся ў аповесці "Знак бяды". У беларускай літаратуры ніхто так абгрунтавана, псіхалагічна-глыбока не раскрыў бессэнсоўнасць, бесчалавечнасць сталінскіх метадаў абагулення сялянскіх гаспадарак, вытручвання ў селяніне-працаўніку любові да зямлі-карміцелькі, вынішчэння яго гаспадарчых традыцый, ператварэння асобы чалавека ў бяздумны вінцік, выканаўцу волі вышэйшага начальніка. Гэту тэму В.Быкаў працягвае даследаваць у аповесцях "Аблава", "Сцюжа", напісаных на пачатку 90-х гадоў. Не трэба шматлікіх эканамічных выкладак, лічбаў, гістарычных экскурсаў, каб зразумець, што такое калектывізацыя для нашай краіны, вынікі якой мы, магчыма, найбольш цяжка адчуваем менавіта сёння. Трэба ўвайсці ў лёс галоўнага героя "Аблавы" Хведара Роўбы і яго сям'і. Гэта адзін з мільёнаў сялян, якому савецкая ўлада напачатку дала зямлю, і кемлівы, гаспадарлівы, працавіты Хведар Роўба хутка пачаў станавіцца на ногі: заснаваў так званую культурную гаспадарку, набыў малатарню, дапамагаў слабейшым аднавяскоўцам, марыў вывесці ў людзі дачку і сына, які стаў першым камсамольцам у вёсцы. Не збыліся яго мары. Падпаў ён са сваёй гаспадаркай пад раскулачванне і апынуўся ў спецперасяленцах на далёкай Поўначы, дзе не вытрымалі пакут і памерлі жонка і маленькая дачка Волечка. А Хведар падаўся нелегальна дадому з адзіным жаданнем -- паглядзець на радзіму, на сваю хату. Невыносна цяжка чытаць пра яго такую страшную, галодную і халодную дарогу, пра блуканні па родным селішчы, па начной вёсцы, пра яшчэ больш пакутлівы стан душы і невырашальнае пытанне: завошта?

Сілай мастацкага слова ўзнаўляе пісьменнік жудасныя карціны жыцця (калі такое можна назваць жыццём) спецперасяленцаў. Упершыню ў беларускай літаратуры раскрываецца тэма, якая дагэтуль заставалася за гарызонтам, -- лёс тых, каго залічылі па нейчаму даносу ў кулакі і па плану высылалі з родных мясцін, вырваўшы з коранем, пазбавіўшы ўсялякіх чалавечых правоў. З'явіўся новы герой -- спецперасяленец, паказана яго існаванне там, у высылцы, дзе такія, як Хведар Роўба, гінулі тысячамі. У "Аблаве", невялікай па памерах аповесці, сканцэнтравана мноства праблем. Паўстае пытанне даверу да мерапрыемстваў савецкай улады, калі буйна расквітнелі даносы, сталі паўсюдна вышуквацца ворагі, дзе галоўным быў тэзіс пра абвастрэнне класавай барацьбы па меры пабудовы сацыялізму і камунізму. Абалваньвалася моладзь, якую ператваралі ў бяздушных функцыянераў, як гэта здарылася з сынам Хведара, які, стаўшы сакратаром райкома, даваў згоду на раскулачванне бацькі, хоць да гэтага горача агітаваў яго заводзіць культурную гаспадарку. Трагедыя сям'і Роўбы -- гэта трагедыя вёскі, трагедыя сялян, якіх вынішчалі, высялялі, стваралі такія ўмовы нішчымным працаднём, што людзям нічога іншага не заставалася, як кідаць зямлю, цурацца адвечных сялянскіх традыцый, шукаць выйсце і работу ў гарадах.

Услед за гэтымі падзеямі В.Быкаў ідзе яшчэ глыбей у недалёкую і пакутную нашу гісторыю. Нядаўна з'явіліся яго апавяданні "На Чорных лядах" і "Перад канцом", дзе пісьменнік звярнуўся да часоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Раней пра такія аспекты, якія закранае ў гэтых апавяданнях В.Быкаў, літаратура не магла і згадваць. Размова ідзе пра Слуцкае паўстанне 1920 года, разгромленае бальшавікамі. Паўстанцы змагаліся за незалежную Беларусь, а гэтага беларусам дазволіць ніяк не маглі, хоць дэкларатыўна было аб'яўлена аб праве нацый на самавызначэнне. Трагічны лёс слуцкіх паўстанцаў і адлюстроўвае празаік у апавяданні "На Чорных лядах", як заўсёды верны жыццёвай і мастацкай праўдзе.

Нястомна і паслядоўна вядзе сваю вялікую працу В.Быкаў па ўзнаўленню, глыбокаму і шматграннаму асвятленню трагічных старонак беларускай гісторыі. І нездарма яго творы знаходзяць шчымлівы водгук у людскіх сэрцах, перакладаюцца на мовы амаль усіх народаў свету, пераўвасабляюцца ў іншыя віды мастацтва -- так бывае, калі пісьменніцкае майстэрства становіцца класічным, калі творыць таленавіты, праўдзівы і мужны мастак.

**Лідзія САВІК.**

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ВЫРАШЫЎ ПРАБЛЕМУ ЗНІКАЮЧАЙ ВАДЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

Калі пасля вайны Польшча дагаварылася з СССР аб рэпатрыяцыі (трэба было засяляць апусцелыя паслянямецкія рэгіёны) і дзесяткі тысяч беларусаў кінуліся (не жадаючы калгасаў і Сібіры) у заходнія раёны пасляваеннай Польшчы, Мікалай падаўся на Беласточчыну. Недалёка ад Берасця Мікалай затрымаўся ў невялікім горадзе -- Белай Падлясцы. Тут ён запазнаўся з добрым і спагадным чалавекам, па прафесіі фатографам. Здольны і сумленны перасяленец прыпаў да душы гэтаму чалавеку. І ён згадзіўся на пэўны час прыняць на работу (абучэнне) Аляшкевіча. Так і вырашылі.

Практыка пацвердзіла спадзяванні фатографа. Вучань быў вельмі акуратны і здольны. У хуткім часе ён дакладна вывучыў усе магчымасці фотаапарата, законы кампазіцыі, перспектывы, асвятлення і партрэтнай "прамудрасці". Стаў паспяхова падмяняць у выпадку патрэбы майстра -- свайго шэфа. Праз некаторы час Мікалай атрымаў неабходныя дакументы на права самастойна займацца фатаграфіяй.

Пераехала сюды і жонка Антаніна з сынам, пачалося паўнацэннае сямейнае жыццё. Але ж трэба было думаць пра будучыню, пакуль маладыя ды здаровыя. Правінцыя і рамяство не задавальнялі таленавітага дзецюка. Ён вырашыў пераехаць у вялікі, перспектыўны цэнтр. У 1946 годзе сям'я перабіраецца ў Гданьск. Партовы і курортны горад прагна патрабаваў спецыялістаў усіх прафесіяў. Магчымасці былі вялікія.

Для пачатку неабходныя былі грошы. Сабраўшы ўсе свае "капіталы" і запазычыўшыся, Мікалай з Антанінаю адкрылі прыватнае фотаатэлье.

Грошы перасталі быць праблемай. Так было да 1950-га года. Па камандзе з Усходу ў Польшчы пачалася ліквідацыя прыватнай ініцыятывы і прыватнай уласнасці. Рэальная ўлада перайшла да Бэрмана і яго каманды, Гамулка траціў уплыў і пасля быў арыштаваны. Прыйшлося Мікалаю закрыць сваё фотаатэлье.

"Вайну я перажыў, -- пісаў пазней Аляшкевіч. -- Стабілізаваў фінансавыя справы, жыць навучыўся, не хапала мне толькі асветы. А без адукацыі, як гавораць, далёка не заедзеш".

Вясною даведаўся, што ўвосень пры першым ліцэі ў Гданьску арганізуюцца гадавыя курсы для тых, хто па нейкіх прычынах не закончыў сярэдняй школы.

"Ад вясны да восені я старанна вучыўся, -- кажа далей Мікалай. -- Рыхтаваўся да экзаменаў. Здаў іх паспяхова і быў прыняты на гэтыя курсы. Мне адчыняліся дзверы да вялікай навукі і шырокай, творчай дзейнасці. Усходзіла сонца на далёкім яшчэ жыццёвым гарызонце..."

Вучыўся Аляшкевіч заўзята. Выкарыстоўваў даслоўна кожную хвіліну, што не раз выклікала спрэчкі з уласнаю жонкай. Праседжваў за кнігамі да позняй ночы. Зблажнеў, змардаваўся як ніколі, але ў 1952 годзе атрымаў матуру -- атэстат сталасці. А гэта давала магчымасць для далейшай навукі -- вышэйшай асветы!..

Нягледзячы на конкурс, здаў экзамены і быў прыняты ў Гданьскую палітэхніку.

"Колькі мне прыйшлося папрацаваць напачатку, гэта толькі я знаю", -- пісаў Аляшкевіч. Але з кожным наступным годам было ўсё лягчэй. У 1957-м здаў апошнія экзамены і атрымаў дыплом інжынера воднага будаўніцтва.

Стараннасць і працавітасць дапамаглі яму атрымаць працу ў Інстытуце воднага будаўніцтва Польскай акадэміі навук. Напачатку гэта быў выпрабавальны тэрмін: рабіў у характары асістэнта. Аднак праз нядоўгі час здольны інжынер быў залічаны сталым працаўніком. Пачаўся росквіт. "Гэта быў самы светлы, цудоўны перыяд у маім жыцці, -- сцвярджаў Аляшкевіч. -- Вельмі цікавая праца, цікавыя і таленавітыя людзі. Усцяж новыя праблемы і новыя адкрыцці. Вырашаліся заданні з глыбокай зацікаўленасцю і эмоцыяй"...

Адначасова ўзбагачаўся запас новых ведаў. Распрацоўваў тэматыку новага марскога будаўніцтва, дынамікі мора, будовы портаў. Гэтая, сказаць бы, "іскрамётная" дзейнасць стала ў пэўным сэнсе узнагародай за папярэдне выкананую агромную працу. На тэматычных тэрмінах і сімпозіумах усцяж расла маштабнасць работ і запас тэарэтычных і практычных ведаў.

Але і гэта не задавальняла дапытлівага, творчага розуму канструктара. Ён дадаткова скончыў курсы прыкладной матэматыкі. Гэта значна пашырыла далейшыя магчымасці ў творчай, канструктыўнай працы. Давялося наведаць многія краіны свету: Бельгію, Канаду, ЗША, Афрыку і інш. Так, у Еўропе, як і на іншых кантынентах, прыйшлося вырашаць надзвычай складаныя праблемы, якія вымагалі вялікай удумлівасці, вынаходства, глыбокага інтэлекту. Так, напрыклад, у Сенегале (Афрыка) давялося два гады працаваць па кантракту, каб вырашыць праблему знікаючай на ўсёй тэрыторыі краю вады. Знікненне вады ўсюды з'яўляецца бядой. А ў гарачай Афрыцы гэта пагражала абярнуцца ўсёй тэрыторыі дзяржавы ў голую пустыню. Без рэк, азёр і студняў тут у хуткім часе была б мёртвая зона... Аляшкевіч вырашыў гэтую гіганцкую праблему, вырашыў паспяхова!

Да крайнасці сціплы інжынер-канструктар з малавядомай Беларусі без усякай падтрымкі свае мачахі-дзяржавы дабіўся прызнання ўсяго цывілізаванага свету, як выдатнейшы спецыяліст па водных праблемах.

-- Але дзе б я ні працаваў, -- гаворыць славуты інжынер, -- заўсёды перад вачыма меў свой родны край і акрадзены народ...

**Аляксей АНІШЧЫК.**




**У чарговай нізцы песень да фестывалю мы падаём дзве выдатныя пінскія песні з запісаў апошніх гадоў: веснавы тэатралізаваны карагод "Ой, пасею мак", запісаны ад фальклорнага гурта в. Пінкавічы, і любоўную песню-баладу "Любіў казачэнька прыгожу дзяўчыну", якая запісана ад сямейнага гурта Бондзічаў у в. Ганчары.**

**Васіль ЛІЦВІНКА,**
**Уладзімір РАГОВІЧ.**

## ОЙ, ПАСЕЮ МАК




**Ой, пасею мак (2) над вадою,**
**Да зарос мак лебядою.**

**Да зарос мой мак (2) лебядою,**
**Пашла замуж маладою.**

**Да пашла замуж (2) не трапіла,**
**Дарма леты патраціла.**

**Ой, сама маці (2) вінавата,**
**Мяне рана не збудзіла.**

**Што мяне рана (2) не збудзіла,**
**Шчасця-долі не ўдзяліла.**

**Ой, усе дзеўкі (2) рана ўсталі,**
**Шчасце-долю разабралі.**

**А я малада (2) спазнілася,**
**Ліха доля судзілася.**

**Як макаў цвет (2), мой век прайшоў,**
**Што рана зацвіў, а ўдзень упаў.**

## ЛЮБІЎ КАЗАЧЭНЬКА ПРЫГОЖУ ДЗЯЎЧЫНУ




**Любіў казачэнька прыгожу дзяўчыну,**
**Хацеў яе браці, не аддавала маці.**
**Казача-саколю, трэба было знаці,** | 2 р.
**Да свайго сардэнька другое шукаці.**

**Казача-саколю, трэба было знаці,**
**Да свайго сардэнька другое шукаці.**
**-- Шукаю, шукаю і буду шукаці,** | 2 р.
**Пайду на магілу сабе дол капаці.**

**-- Капай, казачэнька, капай шырачэнька,**
**Дай я там прылягу ля твайго бачэнька.**
**Капай, казачэнька, глыбокую яму,** | 2 р.
**Пайду я дадому, развітаюсь з мамай.**

**Прышла я дадому белу сукню класці,**
**Блакітную стужку да боку вязаці.**
**Прышла мая мама, з мяне насмяялась:** | 2 р.
**-- Куды ж, мая доню, так хораша ўбралась!**

**Прышла мая мама, з мяне насмяялась:**
**-- Куды ж, мая доню, так хораша ўбралась!**
**-- Не смейся ты, мама, не смейсь нада мною,** | 2 р.
**Апошню гадзіну бачымся з табою.**

## СПОРТ

СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА. У Празе каманда беларускіх гімнастаў заваявала першае месца. І ў асабістым заліку пераможцам стаў наш зямляк Іван Іванкоў. Ён, а таксама алімпійскі чэмпіён Віталь Шчэрба вызначыліся і ў асобных практыкаваннях.

ВОДНАЕ ПОЛА. Усяго адно паражэнне, ад каманды Малдовы, пацярпелі спартсмены юніёрскай зборнай Рэспублікі Беларусь на адборачных гульнях у Браціславе. Гэта, аднак, не перашкодзіла ёй выйсці ў фінал першынства Еўропы.

СУЧАСНАЕ ПЯЦІБОР'Е. Спаборніцтвы трэцяга этапу Кубка свету, якія праходзілі ў Венгрыі, прынеслі поспех гамяльчанцы Жанне Шубянок, яна набрала вялікую суму ачкоў: 5 449.

Сярод мужчын у аналагічным турніры, што праходзіў у Сафіі, беларус Сяргей Коршун стаў другім.

ТЭНІС. Мінчанка Наталля Зверава прадоўжыла бяспройгрышную серыю выступленняў у пары з амерыканкай Д. Фернандэс. Чарговай перамогі гэты дуэт дамогся нядаўна на адкрытым першынстве Францыі.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 826. Падпісана да друку 13. 6. 1994 г.**